

Матура 2014→3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




Зіна Рубчэўская→8


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 22 (3029) Год LIX | Беласток, 1 чэрвеня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


У днях 20-25 мая прайшоў у Беластоку і некалькіх іншых мясцовасцях Польшчы **XXXIII Фестываль спяваючай душы**, **— фестываль царкоўнай музыкі**. Ганаровым патронам фестывалю быў Прэзідэнт Рэчы Паспалітай Браніслаў Камароўскі, а мастацкім — славуты польскі кампазітар Кшыштаф Пэндэрэцкі, у якога творчым дасье шмат царкоўнай музыкі. Фестываль быў таксама ахоплены апекай міністра Культуры і нацыянальнай спадчыны ды прэзідэнтаў Беластока і Варшавы. У мерапрыемстве прынялі ўдзел чвэрць сотні хароў, у тым чатыры з Польшчы і шэсць з Беларусі. Шмат хароў прыехала з Украіны і Расіі ды па адным з Румыніі, Малдовы, Славакіі, Літвы ды далёкай Аўстраліі. З Беларусі прыехалі тры хары з Мінска, два з Гродна і адзін з Камянца.

# Фестываль спяваючай душы



Маю цікавасць прыцягнуў хлапечы хор „Светач” Сярэдняй школы № 3 з Гродна, у фестывальнай праграме якога было шмат беларускага духу. Фестывальны даведнік падае, што хор быў заснаваны ў 1983 годзе. У яго рэпертуары класічная, царкоўная і народная музыка. Яго першым кіраўніком быў Уладзімір Яльчанінаў, пасля была Вера Кунцэвіч, а зараз яго працай кіруе выпускніца Лідскага дзяржаўнага музычнага вучылішча і Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Ірына Ягоўдзік, якую я крышку распытаў пра хор:

— Ваш хор гэта для мяне вялікая нечаканасць, бо гэта самі хлопцы, а вядома, што такіх хлапчукоў цяжка загнаць да спеву, бо яны болей ахвотна за мячом бегалі б. Як Вам удалося іх прыцягнуць?

— Можа нейкую ролю сыграў мой малады ўзрост. Я кірую хорам з кастрычніка мінулага года, гэта кароткі тэрмін кіравання, але за гэты перыяд мы вельмі многа зрабілі. Дакладна адказаць на пытанне, як я іх збіраю не магу — рознымі спосабамі. Трэба, бывае, звяртацца за дапамогай да адміністрацыі школы, каб яна нейк садзейнічала прысутнасці дзяцей на занятках, бо дзеля дасягнення добрага выніку трэба ўсё ж такі рэгулярна, па сістэме, займацца. Нельга дапусціць да расслаблення, бо гэта ўплывае на выніку. Іх стымулююць таксама такія паездкі — ім падабаецца ездзіць у замежжа, ім падабаецца, што гэта міжнародны фестываль, тут многа калектываў, яны могуць многае пачуць і пабачыць.

— Яны часта ездзяць за граніцу?

— Да мяне іх кіраўніком была Вера Кунцэвіч і яны з ёю ездзілі на конкурсы і фестывалі, хаця не надта часта, бо з хлопцамі вельмі складана выпрацаваць патрабавальную праграму. Найчасцей выступалі ў Гродне, з канцэртамі праваслаўнай музыкі ў саборах, цэрквах. Мы нядаўна пацвердзілі званне Узорнага хору, нас запрасілі на міжнародны фестываль, мы рашылі прыняць запрашэнне, каб паказаць сябе і паглядзець на іншых.

— Як часта адбываюцца заняткі Вашага калектыву?

— Канцэртны склад хору збіраецца два разы ў тыдзень па дзве гадзіны, а перад выступамі я крыху больш „мучу” дзяцей — тады займаемся штодзённа па тры гадзіны з перапынкамі. А так яны займаюцца вакалам асобна, кожны прыходзіць да мяне і мы тады займаемся індывідуальна методыкай вакала — як правільна выконваць адмысловыя творы.

— У Вашым рэпертуары царкоўная музыка. Ці Вашы падапечныя выступаюць у час набажэнстваў?

— З ранейшым кіраўніком яны выступалі з праваслаўнай музыкай у літургіях, а пасля найчасцей давалі канцэрты на больш свецкія тэмы. Апрача праваслаўнай і каталіцкай музыкі мы выконваем многа свецкай музыкі, народныя пацешкі — тое, што найбліжэйшае дзецям па духу. У маім калектыве дзеці рознага ўзросту — з другога па дзевяты клас — таму і падбіраю даволі шырокі рэпертуар, каб пасаваў і малым, і старэйшым.

— Мяне вельмі прыемна задзівіла, што ў Вашым рэпертуары пачэснае месца займаюць беларускія аўтары.

— Мы шануем сваю Радзіму, з’яўляемся патрыётамі, таму мы выконваем творы сваіх, беларускіх аўтараў, у тым ліку і гродзенскіх аўтараў. І дзецям падабаецца гэтая музыка, падабаецца беларуская мова — яна мілагучная і лёгкая дзецям на ёй спяваць.

— У Вашай групе самі хлопцы. А ці ёсць таксама групы дзявочая ці змешаная?

— У нашай школе працуюць дзіцячыя хары, але пад кіраўніцтвам іншых кіраўнікоў. А гэты хор — адзіны на Гродзенскую вобласць і на ўсю Беларусь хлапечы хор — Узорны хлапечы хор.

— Віншую!

— Дзякую. Апошнія хары дзявочыя і мешаныя, большасцю прыхадскія — любіцельская а не ўзорнага ўзроўню.

— Можа не пра ўсё мне ўдалося Вас распытаць, можа нешта цікавае засталося па-за маёй увагай, а было б цікавае нашым чытачам...

— У складзе хору каля пяцідзесяці чалавек — хлапцоў і юнакоў. У нас існуе канцэртная група, у якую адбіраюцца асаблівa прыгожа спяваючыя хлапцы — яна ў межах дваццаці чалавек. Гэта невялікі камерны склад, каб можна было чыста выканаць творы а капэла, без акампанементу, чысценька. Гэты калектыў існуе здаўна, першым кіраўніком быў мужчына. Канешне, было тады ўсё па-другому, было тады ў складзе каля васьмідзесяці чалавек — хлапцы з першага па адзінаццаты клас. Гэта было ў савецкі час, было ў дзяцей зацікаўленне. Цяпер жа хлапцам больш цікава пагуляць у футбол, заняцца нейкім спортам, але нам усё ж такі ўдаецца іх сабраць. Вось з тым першым кіраўніком яны вельмі многа ездзілі, яны станавіліся прызёрамі міжнародных конкурсаў, узровень хору быў даволі высокі. Але са зменай кіраўніка змянецца ўсё, таму што кожны чалавек уносіць свае асабістыя якасці і вось мы зараз маем тое, што маем.

— Ну, а як Ірына Ягоўдзік трапіла ў гэты ансамбль?

— У мінулым годзе я закончыла штудыі на факультэце мастацтва і дызайна Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Да гэтага я закончыла музычнае вучылішча па класе харавога дырыжыравання, мне гэты напрамак цікавы, падабаецца. Даведалася, што патрабуюць кіраўніка, прыйшла на размову, знайшлі агульную мову з адміністрацыяй, прынялі мяне і я вось працую, даволі — па-мойму — паспяхова.

— Вялікае Вам дзякуй. Жадаю Вам далейшых поспехаў, так у Вашай працы з моладдзю, як і ў асабістых справах.

* * *

Журы конкурсу, у складзе якога працавалі Лэся Дычко з Украіны, Анатоль Кісялёў з Расіі, Ілона Стэпан з Малдовы, Бажэна Савіцкая, Юры Шурбак ды старшыня Рамуальд Твардоўскі, падвяла вынікі мерапрыемства. У катэгорыі прыхадскіх хароў першае месца журы прысудзіла хору з Сіднея, другое — хору з Курска, два трэція месцы харам з Кіева і Браціславы; вылучаны быў таксама хор з Вроцлава. У катэгорыі аматарскіх свецкіх хароў перамогу журы прысудзіла хору БДУ з Мінска, другое — хору з Каўнаса, два трэція месцы — маскоўскім універсітэцкім харам з Расіі. У катэгорыі хароў музычных вучылішчаў першае месца прысуджана хору Маскоўскай кансерваторыі, другое — харам з Чарнаўцоў і Мінска, трэцяе — хору з Луцка. У катэгорыі дзіцяча-моладзевых хароў: першае месца — хору з Масквы, другое — хору Моладзевага дома культуры з Беластока, трэцяе — хору з Камянца. У катэгорыі прафесійных хароў: першае месца — хору з Кіева, другое — хору з Бухарэста, тры трэція — харам з Мінска, Гродна і Варшавы. Журы вылучыла таксама двое дырыжораў: Тацціяну Жданаву, якая кіруе маскоўскім дзіцяча-моладзевым харам „Радасць” ды Аляксея Шамрыцкага, які кіруе пераможным прафесійным кіеўскім харам „Сафія” Нацыянальнага саюза кампазітараў Украіны.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**





# Новы адлік

25 траўня бягучага года ў суседняй з намі краіне пачаўся новы гістарычны адлік. Украіна шосты раз выбірала свайго прэзідэнта, але выбар гэты быў асаблівы і ўнікальны. Прэзідэнта выбіралі не проста датэрмінова. Прэзідэнта абіралі ва ўмовах знешняй агрэсіі Расіі, ва ўмовах вайны на ўсходзе краіны, доўгагадовай стомленасці і расчараванасці грамадства. 25 гадоў Украіна пакутліва шукала свой шлях. Найноўшыя падзеі выразна паказалі, што ўкраінцы маюць спелую здаровую нацыю, але не маюць моцнай нацыянальнай дзяржавы. Парадоксу тут няма ніякага. З пачатку незалежнасці ва Украіне не былі праведзены патрэбныя рэформы, не была зроблена люстрацыя і ёй падобныя рэчы. Ніхто не змагаўся з карупцыяй і хабарніцтвам. З кожным новым кіраўніцтвам гэтая іржа толькі раз'ядала краіну. Несправядлівая і злачынная сістэма не ўзнікла толькі пры прэзідэнце Віктару Януковічу, яна засталася ў спадчыну яшчэ ад савецкага часу і развівалася і пры Леанідзе Краўчуку, і пры Леанідзе Кучму. Нічога кардынальна пазітыўнага не здолелі зрабіць і прэзідэнт Віктар Юшчанка з прэм'ерам Юліяй Цімашэнкай пасля перамогі аранжавай рэвалюцыі, альбо не паспелі зрабіць, страціўшы крэдыт даверу. Ну, а за Януковіча палітычная і сацыяльная несправядлівасць стала настолькі відавочнай, што народ паўстаў. Майдан зрынуў антынародны ўрад. Так што зараз перабудоўваць украінскую дзяржаву належыць нанава. І вялікая гістарычная місія кладзецца на новаабранага прэзідэнта Пятра Парашэнку і тых, каго ён паставіць на вышэйшыя дзяржаўныя пасады цяпер.

Асабіста для мяне застаецца загадкай — як так здарылася, што ўкраінскі народ выбраў алігарха Пятра Парашэнку ўжо з першага туру. Тым больш, што на гэты раз годных кандыдатаў было сапраўды нямала. Але абраў адразу — значыць паверыў. Людзі па некалькі гадзін стаялі на выбарчых участках у даўжэзных чэргах толькі для таго, каб прагаласаваць. Выбарчая актыўнасць была надзвычай высокай. І права на памылку ў новага прэзідэнта і яго каманды ўжо няма. Занадта дарагую цану заплаціла і плаціць украінская нацыя за станоўчыя змены ў сваёй дзяржаве. Некалькі соцень людзей ахвяравалі сваім жыццём, на ўсходзе краіны ідзе вайна з імперскім агрэсарам і мясцовымі бандытамі, якія імкнуцца знішчыць Украіну, ненавідзяць усё ўкраінскае. У вельмі цяжкай сітуацыі апынуліся тыя жыхары, якія фактычна сталі заложнікамі ўзброеных прарасійскіх і засланых расійскіх тэрарыстаў. Фактычна 25 траўня ў Данецкай і Луганскай абласцях паўнацэнныя выбары прэзідэнта правесці не ўдалося. Надзвычай шкада і патрыётаў Украіны, якія засталіся ў акупаваным без баёў Крыме — іх кінулі ўсе, ім зараз ніхто не дапамагае. Ці знойдзе новая ўлада магчымасці падумаць і пра іх? Яна, новая ўлада, зараз мусіць выявіць усё — сілу і мудрасць, прынцыповасць і абачлівасць, цвёрдасць і здольнасць дамаўляцца, ісці на кампраміс адначасна.

Выбары ва Украіне вывелі на палітычную авансцэну і новых лідараў — маладых, прыгожых палітыкаў, якія любяць сваю краіну і ведаюць, якім шляхам трэба ісці, якія гатовыя ўзяць на сябе адказнасць у разе, калі не дадуць рады іншыя. Такіх як Алег Ляшко, які стаў трэцім па выніках прэзідэнцкага галасавання. Як Леся Оробец, якая заняла другое месца на выбарах мэра сталічнага Кіева. Нам, беларусам, застаецца пакуль толькі зайздросціць новаму гістарычнаму шанцу паўднёвых суседзяў.

Шмат будзе залежаць і ад знешніх фактараў — роўню і ступені агрэсіі Расіі, пазіцыі і падтрымкі Захаду. Няма сумневу, што новы прэзідэнт будзе прызнаны ўсімі цывілізаванымі дзяржавамі, але што далей... Новай уладзе Украіны вельмі важна прывесці краіну ў НАТА, што стане значным гарантам знешняй бяспекі.

Ва Украіне пачынаецца новы адлік. Там будзе не проста, там будзе вельмі цяжка. Верагодна, што давядзецца плаціць яшчэ больш высокую цану. Няма сумневу толькі ў адным — новай унутранай дыктатуры ва Украіне больш не будзе. Яе не дапусціць украінскі народ — галоўны гарант незалежнасці і свабоды. І дай Бог, каб у іх усё атрымалася.

■ Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Нявыбары



Да нядзельных выбараў мае суседзі падышлі з энтузіязмам. Я маю на ўвазе выбары ў Еўрапейскі парламент, паколькі тымі ва Украіне, безумоўна важнейшымі для Польшчы, наўрад ці хто заварочваў сабе галаву. Ужо ў пятніцу днём пачалі з'язджацца ў вёску ўладальнікі развальваючыхся заплоццяў. З Беластока, з Гайнаўкі, з жонкамі, дзецьмі, сабакамі і катамі, і ўсе ў сваіх ганарлівых аўтамабілях. Паньці, не марнуючы часу, адразу ж кінуліся да крывых кветнікаў і пустазельных агародчыкаў. Дзеці масава выкаціліся на вуліцы са сваімі цацачнымі роварчыкамі, мячыкамі і бадмінтонамі. Панкі паводзілі сябе з прыроднай умеранасцю. Выпіўшы адно-два піўцы, пасядзеўшы крыху, падумаўшы, узяліся за кашэнне газонаў. Роў газонакасілак, механічных кос і трымераў не спыняўся да суботніх прыцемкаў. Толькі тады пачуўся хрыплы трэль салаўя, напаўвэнджанага дымам ад незлічоных грыляўсмажанін. У нядзелю перадвыбарная цішыня надзялілася таксама натруджаным суседзям. Ніхто не круціў сабе галавы палітыканствам. Каму засталося па начных бяседах піва, скончылі яго ў салодкай адзіноце раніцы. Хто не завяршыў шлюбных сварак пры смажаніне, той працягваў іх пры снядануку. Хто не хацеў гатаваць снядануку, карміў сям'ю рэштамі смажаніны. Хто не паспеў злічыць гуллівых дзяцей да поўдня, заклікаў іх да заведзенай машыны ў вячэрні час. Адбыліся выбары ў Еўрапейскі парламент, як звычайна, самі па сабе. Хто галасаваў, той прагаласаваў. А хто не галасаваў, той грыляваў. А хто не грыляваў?

Яўка на выбарах, разлічаная на 23-24%, была больш чым жалюгоднай. Тым не менш, мы ведаем, што некаторыя былі абраныя ў Еўрапарламент. У большасці па партыйнай рэкамендацыі ГП і ПіС. Але не ведаем, хто даваў ім рэкамендацыю і чаму. Веды аб Еўрапейскім Саюзе амаль роўныя нулю. Яны зводзяцца да таго, што мы можам свабодна перамяшчацца ў межах краін ЕС без пашпартоў і легальна можам там працаваць. Як на паўнавартасных грамадзян гэтага еўрасаюзнага арганізма гэтага замала, каб Еўропа не разглядала нас як прыродных ідыётаў. Так, разглядае нас такімі як мы заслугоўваем, і, больш за тое, паводле таго, як нас успрымае — выкарыстоўвае. І што на гэта польскі палітычны істэблішмент? Ці выбарам у Еўрапейскі парламент папярэднічала сумленная адукацыйная кампанія аб самім Еўрасаюзе? Аб яго важнасці для Польшчы і для ўсіх яе грамадзян? Аб далёка ідучых, цывілізацыйных, культурных і эканамічных паслядоўнасцях для нашай маленькай, сварлівай, парафіяльнай краінкі гэтага транснацыянальнага, багатага ў дэмакратычны вопыт арганізма? Няўжо мы сапраўды яго частка? І ці хочам быць? І калі так, дык на якіх умовах?

Гэтыя пытанні патрабуюць тэрміновых адказаў. Гледзячы на размеркаванне галасоў, большасць з якіх размешчаны сіметрычна на дзве вядучыя палітычныя партыі ў Польшчы, ПіС і ГП, я маю ўражанне паўтарэння выбараў у польскі Сейм. Сапраўды, гэта знаходзіцца ў стратэгіі партыйных палітыканаў. Не за інтарэсы Польшчы, не за яе месца ў Еўропе ў гэтых выбарах ідзе гаворка, а за свае ўласныя вузкія інтарэсы, за ўласны, засценкавы, часовы інтарэс гэтых дзвюх партый характэрных раз'юшаным антаганізмам. Я не сумняваюся, што гэта іх партыкулярныя мэты, а не польскія справы, будуць прадстаўляць іхнія кандыдаты ў новым Еўрапарламенце. Ды не туды дарога! Польшча гэта не толькі дзве вядучыя палітычныя партыі. Гэта перш за ўсё яе грамадзяне — палякі, беларусы, украінцы, немцы — шматкультурная, шматканфесійная і палітычна плюралістычная краіна. Краіна, якая павінна мець вартых яе, асвечаных, незалежных ад уласных партый прадстаўнікоў у Еўрапарламенце. Краіна, якая стамілася ад ідэалагічных гульняў, подласці, дробязнасці і парафіяльнасці партыйных крыкуноў.

Выбары, аднак, як кожныя выбары, прысвойваюцца рознымі групамі інтарэсаў. Некаторыя хочуць навязаць выбаршчыкам сваю ідэалогію. Другія — палітычнае ці эканамічнае бачанне. Трэція выкарыстоўваюць выбаршчыкаў для ажыццяўлення якіхсьці, нярэдка подлых планаў. Усё залежыць ад выбаршчыкаў. Чым больш адукаваныя і свядомыя партыйных гульняў, тым мудрэй галасуюць. Цяперашнія выбары ў Еўрапейскі парламент палякі прайгралі. З-за свайго невуцтва. Цікава мне, ці ўкраінцы выйгралі свае.

■ Міраслаў ГРЫКА



Вачыма еўрапейца

# Падзел у другі раз

У другі раз падляшскі маршалак Яраслаў Дважанскі запрапанаваў новы падзел ваяводства на выбарчыя акругі, якія маюць быць акрэслены перад восеньскімі выбарамі ў мясцовыя самаўрады. Гэта адбылося зноў, таму што яго ранейшая прапанова не атрымала спрыяльнага меркавання ў рад Беластоцкага і Гайнаўскага паветаў. Як я ўжо пісаў тут раней, ён прапанаваў у першым варыянце, каб падзел улічваў запіс новага Выбарчага кодэкса: «Аб'яднанне паветаў не можа парушаць грамадскіх сувязей, якія злучаюць выбаршчыкаў, што належаць да нацыянальных або этнічных меншасцей, якія пражываюць на тэрыторыі аб'яднаных паветаў». Так, згодна з яго інтэрпрэтацыяй, мела б здарыцца пры спалучэнні з адну акругу паветаў: Гайнаўскага, Бельскага, Сямятыцкага і... Замбраўскага і Высока-Мазавецкага. Зараз да гэтых паветаў маршалак дакінуў яшчэ Беластоцкі (земскі) павет. У агульнай складанасці маршалак прадугледжвае падзел ваяводства на чатыры акругі: № 1 — у тым ліку горад Беласток, у якім выбіраецца 7 радных; № 2 — ахопліваючы горад Сувалкі, Сувальскі, Аўгустоўскі, Сейненскі, Сакольскі і Монькаўскі паветы, 8 радных; № 3 — ахопліваючы горад Ломжу, Ломжынскі, Кольненскі і Граеўскі паветы, 5 радных. У «меншасным» павеце № 4 павінна быць выбраных дзесяць радных. Я папрасіў у маршалка растлумачыць сваё рашэнне (дарэчы: з нагоды прэс-канферэнцыі аб святкаванні ў сталіцы Падляшша круглай гадавіны выбараў у Сейм і Сенат ад 4 чэрвеня 1989): «Да пачатку змены межаў выбарчых акругаў пераканалі нас запісы Выбарчага кодэксу, які даволі выразна ўдакладняе, як павінны быць прадстаўлены падчас мясцовых выбараў нацыянальныя і этнічныя меншасці. Паколькі папярэдняя прапанова не была падтрыманаараднымі Беластоцкага і Гайнаўскага паветаў, не жадаючы нічога рабіць сілай і стварыць замяшанне, я вырашыў перагледзець сваю пазіцыю і прапанаваў іншае рашэнне, якое абсалютна выходзіць насустрач Выбарчаму кодэксу, а з другога боку цалкам адпавядае выбарчай арыфметыцы, таму што мы ствараем раёны, у якіх выбіраецца не менш за пяць радных, а не больш за пятнаццаць».

Ён падкрэсліў, што схільвае да роздуму над яго палітычнымі намерамі (жыхары Замбраўскага і Высока-Мазавецкага паветаў у асноўным падтрымліваюць кандыдатаў ад ПіС): «Калі ўжо ў адной акрузе маюць быць усе паветы, у якіх засяроджваецца беларуская меншасць, я думаю, што гэта павінна быць вялікая выбарчая акруга, якую будуць прадстаўляць асобы не толькі беларускага паходжання. Гэтая акруга, у якой будуць выбірацца дзесяць радных, таксама адкрывае шлях для шырокага прадстаўніцтва беларускай меншасці ў самакіраванні ваяводства. Ва ўсякім выпадку, мінулая практыка паказвае, што яны нават без такіх запісаў нядрэнна паказалі сябе» (балатаваліся са спіскаў палітычных партый — М. Х.).

Я спытаўся, чаму ён не згодны з прапановай стварыць акругу, якая складаецца з чатырох паветаў, населеных беларускай меншасцю, без Замбраўскага і Высока-Мазавецкага паветаў. Як палітык, «Не буду да гэтага адносіцца. Як палітык, я маю права мець пэўнае бачанне гэтых акругаў».

Гэтак жа, як і да папярэдняй, так і да гэтай прапановы памяркоўна ставіцца старшыня БГКТ Ян Сычэўскі: «Гэта прапанова згодная з літарай закона, але не з яго духам. Самым аптымальным варыянтам было б уключэнне толькі Беластоцкага (земскага), Бельскага, Гайнаўскага і Сямятыцкага паветаў з пункту гледжання патрэб беларускай меншасці.

З пункту гледжання беларусаў, якія жывуць на Беласточчыне, не рады задумай Яраслава Дважанскага гайнаўскі староста Уладзімір Пятрочук. Распытвае ён пры нагодзе, чаму б не ўключыць у «беларускую акругу» Сакольскі павет, без Замбраўскага і Высока-Мазавецкага. У сваю чаргу, старшыня Беларускага саюза ў Польшчы Яўген Вапа заяўляе: «Прапанова далучэння Беластоцкага да Гайнаўскага, Бельскага і Сямятыцкага паветаў ідзе ў правільным кірунку. Калі б маршалак і яго дарадцы, аднак, уважліва прыгледзеліся карце, дзе жывуць беларусы, гэты пояс ахапіў бы Сакольскі павет і з яго ўключэннем была б сапраўды ідэальная акруга з пункту гледжання пражывання беларускай меншасці. Была б гэта натуральная прастора — і этнічная, і грамадская, і эканамічная, у якой жыла і жыве беларуская меншасць».

Рады паветаў маюць цяпер чарговы час (з моманту здачы праекта) на магчымае прадстаўленне свайго меркавання. Гэта не абавязвае маршалка да чаго-небудзь. Аднак, у сувязі з чаканнем яго, праект падзелу на акругі мае быць разгледжаны на сесіі сейміка, планаванай на 23 чэрвеня.

■ Мацей ХАЛАДОЎСКІ




Бельскія белліцэісты былі рады сваім выступам з прэзентацыямі на беларускай мове

# Беларуская мова
## падчас матуральных экзаменаў

Матуральныя экзамены па беларускай мове адбываюцца ў нашых ліцэях па такіх самых правілах, як па польскай мове, паколькі навучанне беларускай мове на Беласточчыне адбываецца па прынцыпах роднай мовы. Сёлета белліцэісты прыступілі да пісьмовага экзамену па беларускай мове ажно 23 мая, але намнога раней пачалі выступаць перад экзаменацыйнымі камісіямі з падрыхтаванымі загадзя пабеларуску прэзентацыямі. У наступным школьным годзе нашыя ліцэісты не будуць ужо рыхтаваць прэзентацый па польскай і беларускай мовах, але будуць здаваць па гэтых прадметах вусныя матуральныя экзамены.

Калі я наведаў Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім, выпускнікі ІІІ «ц» класа прыйшлі выступаць перад камісіяй з прэзентацыямі і былі добрай думкі аб сваіх выступленнях. Выходзячы, супакойвалі сваіх сяброў, каб тыя залішне не турбаваліся.

— Я падрыхтавала прэзентацыю аб творчасці Максіма Багдановіча. Буду, між іншым, гаварыць пра стаўленне паэта да Радзімы і сэнсу жыцця, — заявіла Уля Цімашук.

Яе сяброўка Марлена Сідарук падрыхтавала прэзентацыю аб святой Еўфрасініі Полацкай, беларускай асветніцы. Аляксандра Карнілюк расказвала пра абраднасць і вераванні ў вёсцы Галады, звяртаючы асаблівую ўвагу на тыя абрады, якія можна яшчэ наглядаць у гэтым сяле падчас святкавання Вялікадня ці Тройцы.

— Я падрыхтавалася расказваць пра каханне ў беларускай літаратуры. Хачу звярнуць увагу на творы Максіма Багдановіча і МаксімаТанка, — заявіла Дамініка Венцка.

— Мы рады, што прыйшлі вучыцца ў Бельскі белліцэй, бо тут добрая атмасфера і высокі ўзровень навучання. Добра ўспамінаем вучобу па-беларуску. Я любіла аналізаваць літаратурныя творы, ці слухаць расказы настаўніцы Анны Бжазоўскай узятыя з жыцця, — сказала Вераніка Ваўранюк.

Яе сяброўка Оля Рамановіч распавядала пра народную мудрасць і фальклор у казках, якія любіла слухаць у дзяцінстве. Віялета Крук расказвала пра партрэт маці ў беларускай літаратуры, засяродзіўшыся на творах Максіма Танка, Наталлі Арсенневай і Алеся Барскага. Карнэліюш Каравай распавёў пра гісторыю Бельскага белліцэя і пералічыў яго дырэктараў: Анатоль Тымінскі, Яраслаў Кастыцэвіч, Мікола Гайдук, Аляксей Карпюк, Зінаіда Навіцкая і Андрэй Сцепанюк. Белліцэісты падчас прэзентацый выказваліся таксама на тэму творчасці беларускіх пісьменнікаў і мясцовага фальклору. Матуральныя экзамены гэта іх апошнія класавыя сустрэчы. Пазней маюць намер раз'ехацца на вучобу ў вышэйшыя ўстановы ў Беласток, Варшаву, Ольштын, Гданьск і іншыя гарады.

— Узровень выступленняў нашых ліцэістаў з прэзентацыямі быў вельмі добры, — заявіла настаўніца Яўгенія Таранта, якая ўзначальвала экзаменацыйную камісію.

Дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк удакладніў, што не было нечаканых здарэнняў, якія б ускладнілі матуральныя экзамены ў яго школе і дадаў, што вынікі пісьмовых матуральных экзаменаў будуць вядомыя толькі ў канцы чэрвеня, а ўжо зараз вядома, што ўсе вучні паспяхова справіліся з прэзентацыямі.

— Да матуральных экзаменаў прыступіў у нас 131 абітурыент, а каля 20 мінулагодніх выпускнікоў рашылася паправіць вынікі матуральных экзаменаў. Нашы настаўнікі сказалі, што ўвесь матэрыял, па якім трэба было вучням працаваць на пісьмовых матуральных экзаменах, быў прааналізаваны ў нашай школе і не было ніякіх неспадзевак. Ад вучняў залежала, як яны засвоілі матэрыял і як справіліся падчас пісьмовых выпрабаванняў, — сказаў дырэктар Андрэй Сцепанюк.

У наступным школьным годзе белліцэісты будуць ужо здаваць вусныя экзамены па польскай і беларускай мовах. Сёлетнія выпускнікі заяўлялі, што ім больш даспадобы падрыхтаваць прэзентацыю, з якой ужо нескладана выступаць перад камісіяй, чым рыхтавацца да вуснага экзамену па беларускай мове.

— Вусны матуральны экзамен па беларускай мове ацэнім праз год, але зараз ужо вядома, што вучням складана ў маладым узросце выбраць прадметы да пашыранай адукацыі, а гэтага патрабуюць новыя прынцыпы навучання. Нават перад самымі матуральнымі экзаменамі частка нашых ліцэістаў не ведае яшчэ канчаткова, на якую спецыяльнасць будуць паступаць, а тут намнога раней патрабуецца ад вучняў, каб выбралі прадметы да пашыранай вучобы. Аднак цяперашнім выпускнікам звышгімназічных школ шанцуе, што іх намнога менш, чым было яшчэ гадоў дзесяць назад. У вышэйшыя ўстановы па-за прэстыжнымі спецыяльнасцямі прымаюцца амаль усе ахвотныя і вучні аб гэтым ведаюць. Штораз менш вучняў рашаецца паступаць у вышэйшыя ўстановы на гуманітарныя напрамкі, пасля заканчэння якіх цяжэй знайсці працу, — патлумачыў дырэктар Сцепанюк, а на прэстыжныя спецыяльнасці прымаюцца па-за конкурсам лаўрэаты і нават фіналісты паасобных прадметных алімпіяд, чым могуць пакарыстацца вучні нашых белліцэяў.

Большасць выпускнікоў з Бельска, з якімі я размаўляў, бачыла сваю будучыню па-за сваім родным горадам, у галоўным з-за большых магчымасцей знайсці працу ў вялікіх гарадах. Аднак частка маіх суразмоўцаў выявіла ахвоту вярнуцца ў Бельск-Падляшскі пры ўмове, што знойдуць тут працу.

— Задача нашага белліцэя так вучыць моладзь, каб як найбольш з іх паступіла ў вышэйшыя ўстановы, бо задачай нашай школы не ёсць прывучаць да канкрэтных прафесій. Колькі з іх вернецца на пастаяннае жыхарства ў Бельск, будзе залежаць ад саміх маладых людзей і ад таго, ці будзе праца для іх у нашым горадзе, аб чым павінны клапоціцца нашыя самаўрадавыя ўлады. Зараз Бельск стаіць на будаўнічых прадпрыемствах, але не ўсе маладыя людзі хочуць займацца будаваннем, — сказаў дырэктар Андрэй Сцепанюк. За поспехі ў вучобе і па іншых паказчыках за мінулы школьны год Бельскі белліцэй у рэйтынгу, арганізаваным часопісам «Перспектывы», заняў сярод ліцэяў 8 месца ў Падляшскім ваяводстве. Калі толькі ацэньваліся поспехі ў прадметных алімпіядах, Бельскі белліцэй займаў у гэтым рэйтынгу нават намнога лепшыя месцы. Зараз таксама ацэньваюцца вынікі матуральных экзаменаў і бяруцца пад увагу іншыя паказчыкі.

— Калі зараз толькі больш за 500 асоб канчае вучобу ва ўсіх гімназіях у Бельскім павеце, то ж яны разыдуцца па ўсіх нашых звышгімназічных школах і складана цяпер набраць вучняў нават на чатыры першыя класы белліцэя. Калі прымаем усіх ахвотных, іх вынікі на матуральных экзаменах не будуць раўняцца з вынікамі вучняў лепшых беластоцкіх ліцэяў, у якіх вучацца лепшыя вучні Беластока, — заявіў Андрэй Сцепанюк. — Хаця вучняў штораз менш, яны не саромеюцца, што вучацца ў беларускай школе, а нават ганарацца гэтым. Цяпер у нашым горадзе і па-за ім відаць наш адметны беларускі характар. Вельмі важная беларуская свядомасць. Калі малады чалавек свядомы сваёй беларускасці, ганарыцца гэтым, то ў будучыні і навучыцца добра размаўляць па-беларуску.

У гэтым школьным годзе бельскія белліцэісты дабіліся поспехаў па Алімпіядзе беларускай мовы, лаўрэатам якой стаў Каміль Сцепанюк, а фіналістамі — Міхаліна Сахарчук, Аніта Дзмітрук, Паўліна Зінкевіч, Наталля Ракіцкая, Аляксандра Варшыцкая, Філіп Капацкі, Габрыеля Рошчанка, Аляксандра Сарокін і Іаанна Іванюк. Першакласнік Каміль Сцепанюк стаў фіналістам Алімпіяды расійскай мовы і фіналістам Алімпіяды праваслаўных рэлігійных ведаў. Па апошняй алімпіядзе фіналістамі сталі яшчэ Тамаш Карчэўскі і Наталля Паўлючук. Вучні Бельскага белліцэя дабіліся таксама поспехаў у іншых прадметных алімпіядах, але ўжо на ўзроўні акругаў, і перамагалі ў іншых спаборніцтвах. Хаця б Барташ Бедэнічук заняў трэцяе месца ў краіне ў скачках у вышыню. Канстанцыя Ксенія Дораш, Наталля Паўлючук і Аляксандра Сычэўская сёлета паспяхова ўдзельнічалі ў Міжнароднай алімпіядзе беларускай мовы і літаратуры ў Гродне.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## 17 траўня — Дзень малітвы за мір і справядлівасць

Трынядзельнікамі называлі калісь жыхароў падсакольскіх вёсак. Тут хрысціянска-мусульманска-яўрэйскае завяршэнне працоўнага тыдня пачыналася ўжо ў пятніцу.

Шматканфесійнымі былі таксама паднавагрудскія Некрашунцы, у якіх у 1937 годзе нарадзілася Галіна Шахідэвіч. «У пятніцу на малітву збіраліся татары, у суботу ў сінагогу адпраўляліся яўрэі, а ў нядзелю — усе астатнія паднавагрудскія сяляне. Ніхто нікому не перашкаджаў у святкаванні, — успамінае сямідзесяцісямігадовая жанчына. — На працягу гэтых трох дзён цяжкай працай ніхто не займаўся. Шанавалі адзін аднаго, сябравалі, падтрымлівалі».

Малады багоніцкі імам Аляксандр Базарэвіч жыццё даваенных трынядзельных вёсак ведае, перш за ўсё, з аповедаў. Крушынянскія дзяды распавядалі яму, між іншым, пра татарскіх імамаў, якія ратавалі цэлыя яўрэйскія сем'і ў час нямецкай акупацыі. «Да вайны людзі наогул жылі ў міры і ўзаемаразуменні, — сцвярджае імам. — Мясцовае, разнастайнае ў канфесійным плане насельніцтва аб'ядноўвала міжваенная бяда і супольная барацьба з ёю. Татары — выдатнейшыя знатакі гарбарскай справы, апрацаваныя скуры прадавалі, у асноўным, яўрэям. Тыя шылі з іх добры абутак і галантарэю».

Крушынянскія татары славіліся таксама экзарцыстамі. За парадай да іх звярталіся, між іншым, яўрэі. Аздараўленцы прывозілі татарскім братам мяшкі мукі і харчовыя прадукты. «І сёння хочацца зрабіць нешта разам, — прызнаецца нашаму тыднёвіку імам Аляксандр. — Таму сабраліся мы тут, каб памаліцца за мір і спараведлівасць, бо якім жа будзе мір без справядлівасці».

«Трэба маліцца, — гаворыць былая старшыня Беластоцкай мусульманскай гміны, каардынатар мерапрыемства Галіна Шахідэвіч. — Толькі такім чынам можам дабіцца міру і справядлівасці. Супольны мусульманска-каталіцкі савет выйшаў з ініцыятывай арганізацыі Дня ісламу ў Каталіцкім касцёле. У мячэці ўжо чацвёрты год святкуецца Дзень малітвы за мір і справядлівасць. Гэта нашая супольная справа. Трэба засяроджвацца на тым, што нас спалучае. Не забівай, не крадзі і ўсе астатнія запаведзі ў нас аднолькавы. Архітэктура нашых мячэцяў таксама амаль у нічым не адрозніваецца ад старых навакольных цэркваў ці касцёлаў. Больш таго, іх пабудову фінансава падтрымлівала, між іншым, каталіцкая шляхта».

Для гісторыка, доктара Артура Канапацкага міжкультурны дыялог абазначае штодзённы быт і супольнае існаванне ў адной прасторы. «Рэч Паспалітая даравала татарам зямлю, — прыпамінае д-р Канапацкі, — а яны прысвяцілі новай айчыне ўсё найбольш цэннае. Ставалі яны ў абароне межаў і правоў, не шкадуючы ўласнага жыцця».

На яго думку міжканфесійны, міжкультурны дыялог павінен пачынацца і ўзрастаць перш за ўсё ў звычайным жыцці і на ўласным панадворку.

Да згаданага мерапрыемства асабліва рыхтаваўся сакольскі ліцэіст Якуб Андрацкі. Ён удастоіўся гонару меларэцытацыі „Азана" — закліку на малітву з акна багоніцкага мінарэта. Якуб — лаўрэат сёлетняга беларускага конкурсу „Сцэнічнае слова" — упершыню прымаў чынны ўдзел у так вялікім свяце. Тут таксама захапіў ён слухачоў выдатнай інтэрпрэтацыяй старой арабскай малітвы.

Шмат прадстаўнікоў рэгіянальных і дзяржаўных улад, а таксама замежных гасцей сабралася 17 траўня на пляцоўцы перад мячэццю ў Багоніках.

Усе ўдзельнікі мерапрыемства былі запрошаны ў мячэць на паўдзённую малітву, а затым на прысвечаную міру і справядлівасці ў свеце.

Дзень завяршыўся традыцыйным татарскім застоллем.

**Іаанна ЧАБАН**




# ПАРТНЁРСКІ ФОРУМ (2)

Чатыры дні пасля заканчэння Форуму гарадоў-пабрацімаў Польшча-Беларусь у Беластоку (мы пісалі пра гэта тыдзень таму), прэзідэнт падляшскай сталіцы Тадэвуш Трускаляскі ў размове з «Нівай» падвёў вынікі мерапрыемства:

— Гэта была вельмі важная падзея, улічваючы, што мы чакалі яе на працягу не менш дванаццаці гадоў. Для Беластока адносіны з нашым усходнім суседам, перш за ўсё важныя з пункту гледжання маркетынгу. Эфекты форуму ў першую чаргу гэта абмен вопытам у асноўным з пункту гледжання грамадскага транспарту і кіравання камунальнай уласнасцю. Мы таксама атрымалі прома-эфект. Абмен вопытам, я спадзяюся, прынясе наступствы ў будучыні, таму што і нашы, і беларускія працэдуры не дазваляюць на неадкладныя дзеянні. Як горад, мы хацелі б звярнуцца да еўрасаюзнай праграмы Польшча-Беларусь-Украіна ў найбліжэйшай фінансавай перспектыве, каб і такім чынам падтрымліваць сувязі з Беларуссю.

Удзельнікі форуму абмяняліся вопытам у чатырох тэматычных галінах: роля мясцовых самаўрадаў і ўстаноў культуры ў арганізацыі культурнага і сацыяльнага развіцця гарадоў, рашэнні ў вобласці летняга і зімовага ўтрымання гарадоў, стандартаў абслугоўвання пасажыраў у грамадскім транспарце і аказанне публічных паслуг.

Андрэй Скепка, намеснік старасты Гайнаўскага павета:

— Мы сталі рэальным партнёрам для беларускага боку, калі былі створаны Еўрарэгіён «Белавежская пушча». Менавіта ён натхніў на пошукі гарадоў да культурнага супрацоўніцтва, спорту, турызму. І такімі партнёрамі для нашага павета сталі Пружаны, Камянец і Свіслач. У цяперашні час у рамках еўрарэгіёнаў будзем набываць для ўсіх нашых самаўрадаў з павета і з Гродзеншчыны ці Брэстчыны дваццаць пажарных машын больш за 20 млн. злотых. Мы рэалізавалі праект мадэрнізацыі комплексу прафесійных школ для патрэб людзей з абмежаванымі магчымасцямі і такі ж самы ў Камянцы. Наша бальніца ў Гайнаўцы рэалізуе праект лячэння захворванняў ад кляшчоў са сваім калегам у Гродне. Такія прыклады шматлікія. Без партнёрства гарадоў не было б гэта магчымым.

Гэтак жа, як і іншыя самаўрадаўцы памежных гмін, таксама гайнаўскі віцэ-стараста адзначаў у кулуарах у гутарцы з журналістамі:

— Самай вялікай праблемай з'яўляецца бязвізавы памежны рух. Я спадзяюся, што яго дачакаемся. У нас ёсць добрыя кантакты з консулам Беларусі ў Беластоку і візы дастаем адразу, але ў нашых партнёраў у Беларусі ёсць праблемы з іх атрыманнем з сістэмы афармлення віз. Аднак у экстранных выпадках дапамагаюць нам таксама консулы ў Гродне і Брэсце. Сутнасць у тым, каб нашых кантактаў было як найбольш.

У Беларусі 28 гарадоў падпісалі пагадненні з 40 гарадамі ў Польшчы. Гэта абазначае, што некаторыя польскія гарады маюць пагадненні з шэрагам партнёраў у Беларусі, як Брэст, які мае з чатырма.

Ніна Іванова, старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі:

— Кожны горад, маючы намер супрацоўнічаць, сутыкаецца з прававымі, фінансавымі, арганізацыйнымі праблемамі. Часам трэба пайсці з некаторымі праблемамі на дзяржаўны ўзровень. Таварыства дапамагае ім зрабіць гэта. Сёння партнёрства гарадоў гэта таксама эканамічнае супрацоўніцтва, не толькі спорт і культура. Адна з задач такіх сустрэч, як гэтая ў Беластоку, заключаецца ў выяўленні абшараў, якіх мы не выкарыстоўваем для супрацоўніцтва. Не заўсёды валадары горада ўлічваюць патэнцыял для грамадскіх арганізацый. Непатрэбная таксама палітызацыя гэтых кантактаў. Я падкрэсліваю, партнёрства гарадоў з'яўляецца адной з форм народнай дыпламатыі, а не палітыкай. Мы павінны, аднак, дапамагаць у працэсе наладжвання палітычных кантактаў, таму што выказваем інтарэсы народа.

Барыс Батура, старшыня Беларускай арганізацыі гарадоў-пабрацімаў:

— Эканамічныя праблемы, дапамога ў стварэнні сумесных прадпрыемстваў гэта ў цяперашні час асноўная праблема, якая стаіць у рамках супрацоўніцтва гарадоў, таму што ад гэтага залежыць узровень жыцця нашых жыхароў. Функцыянаванне мясцовага самакіравання на прававым узроўні адрозніваецца паміж нашымі краінамі, але функцыянаванне мясцовага самакіравання ў Беларусі адпавядае міжнароднаму праву аб самакіраванні.

У ходзе пленарнага пасяджэння Барыс Батура не хаваў:

— Сёння шмат партнёрскіх пар паслабіла кантакты. Некаторыя ў сілу гэтак званай палітычнай неабходнасці сталі страчваць традыцыйныя сувязі, парушаючы жыццёвую логіку, падрываючы спадзяванні людзей на стабільнае добрасуседства і перспектыўнае супрацоўніцтва. Акрэсленыя цяжкасці наступілі ў сувязі з ратацыяй кадраў, адсутнасцю пераемнасці, асабістых кантактаў кіраўнікоў гарадскіх адміністрацый. Усё часцей наш узаемны інтарэс стаў знаходзіць сваё адлюстраванне толькі ў падпісванні дамоў.

У ходзе канферэнцыі, якая адбылася незадоўга да рабочых перамоў, «Ніва» спыталася ў міністра Гур'янава пра шанцы ўступлення ў сілу польска-беларускай дамовы аб малым памежным руху:

— Пагадненне аб малым памежным руху з'яўляецца практычным інтарэсам для жыхароў Беларусі і Польшчы, і цяпер на афіцыйным узроўні абмяркоўваем магчымасці, якім спосабам найбольш эфектыўна ўвесці ў сілу гэтую дамову. Мы не адмаўляем, што малы памежны рух патрабуе выдатнай інфраструктуры і рашэння спадарожных пытанняў. Таму абмяркоўваем і працуем над тым, каб дамова спрацавала. Паляпшэнне агульнага фону польска-беларускіх адносін можа гэтаму паспрыяць.

Мы цікавіліся, якія інфраструктурныя праблемы ён меў на ўвазе. Віцэ-міністр адказаў:

— Абмяркоўваем іх таксама на супольнай міжурадавай польска-беларускай транспамежнай камісіі. Польскі бок у якасці прыкладу дае нам увядзенне мясцовага прыгранічнага руху з Калінінградскай вобласцю і мы гэта бачым. У той жа час заўважаем, што польска-беларускі адрэзак мяжы нашмат больш сур'ёзны і характарызуецца вельмі вялікім рухам пасажыраў і грузаў. Сёння мы бачым праблемы з глабальным рухам на нашай агульнай мяжы, якая з'яўляецца мяжой паміж ЕС і Мытным саюзам. Мы не хочам, каб увядзенне малога памежнага руху і актывацыя руху ў прыгранічных рэгіёнах стварыла перашкоды для руху больш маштабнага, улічваючы, што польскі і беларускі бакі фіксуюць праблемы інфраструктуры. Таму паралельна абмяркоўваем і праекты адкрыцця новых пунктаў пропуску на мяжы ды мадэрнізацыю існуючай інфраструктуры. Прытым ацэньваем сітуацыю з пункту гледжання ўжо ўступіўшага ў сілу пагаднення аб малым памежным руху паміж Беларуссю і Латвіяй і звязанымі з ім арганізацыйнымі і тэхнічнымі пытаннямі.

Віцэ-міністр Гур'янаў, у якога мы папрасілі назваць дату ўступлення ў сілу малога памежнага руху, пазбег адказу.

Другі дзень форуму быў прысвечаны даследчым візітам самаўрадаўцаў з Беларусі і іншых польскіх гарадоў у беластоцкія муніцыпальныя ўстановы. Многа цікаўнасці выклікалі між іншым транспартныя рашэнні ў беластоцкай сталіцы. Начальнік транспартнага абслугоўвання з Наваполацка быў у захапленні ад аўтобусных палос і веласіпедных дарожак:

— У нас ёсць трыста машын на тысячу жыхароў. Мы шукаем рашэнняў, каб справіцца з хутка ўзрастаючым аўтамабільным транспартам.

Згодна з планамі, чарговая падобная сустрэча гарадоў-пабрацімаў Польшчы і Беларусі адбудзецца ў наступным годзе. Хутчэй за ўсё ў Гродне. Цалкам магчыма, што таксама будуць арганізаваны па абодвух баках мяжы Дні партнёрскіх гарадоў.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

**У час «ІІ Пікніка з беларусам», які 16 мая ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы наладзіла Аб'яднанне «Нашая школа», што дзейнічае пры белліцэі, можна было пазаймацца з глінай, купіць сувеніры выкананыя мастакамі з Гродна, з'есці каўбаску і перш за ўсё паслухаць беларускія песні і інструментальную музыку, паглядзець беларускія народныя танцы і сцэнкі на беларускай мове ў выкананні дзетак і моладзі з Мінска і Гайнаўкі. Доўгі канцэрт даў славуты мінскі фальклорны ансамбль «Дударыкі», які дзень раней выступіў у бельскай «тройцы». У абедзвюх школах атрымаў вялікае прызнанне публікі, захоплены майстэрствам вучняў мінскай гімназіі.**


Вядучыя пікнік Ян Карчэўскі і Магдалена Гаўрылюк

# ІІ Пікнік з беларусам


Фальклорны ансамбль «Дударыкі» з Мінска

У падрыхтоўку арганізаванага аб'яднаннем «Нашая школа» пікніка актыўна ўключыліся настаўнікі і вучні Гайнаўскага белліцэя. У мінулым годзе мерапрыемства было ладжанае на прыродзе, побач школьнага будынка. Сёлета з-за дажджлівага надвор'я пікнік быў пераведзены ў актавую залу, хаця каўбаскі смажыліся і спажываліся на свежым паветры. Аднак гайнаўяне, якім дождж не страшны, на машынах або пад парасонамі мнагалюдна прыбылі на пікнік. Сабралася нашмат больш людзей, чым у мінулым годзе. Мерапрыемства ўдастоілі бурмістр Гайнаўкі Ежы Сірак, гайнаўскі староста Уладзімір Пятрочук і дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Варшаве Эдуард Швайко, які сарганізаваў канцэрты калектыву «Дударыкі» на Беласточчыне. Прыбылі таксама дырэктар Падставовай школы № 3 Галіна Пустэльнік, дырэктар Самаўрадавага садка № 3 з інтэграцыйнымі аддзяленнямі Дарота Дужынская ды іерэй Марк Юрчук, апякун Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія пры Свята-Троіцкім саборы, а таксама былыя настаўнікі белліцэя Васіль Сакоўскі і Аляксей Харкевіч. Асноўную частку публікі складалі вучні, дашкольнікі і іх сямейнікі.

Першымі запрэзентаваліся дзеткі мясцовых садкоў №№ 3 і 5, якія дэкламавалі вершыкі, спявалі песні і танцавалі. Публіка горача апладзіравала дашкольнікам у прыгожых каляровых касцюмах, у якіх яны выступаюць падчас беларускіх мерапрыемстваў.

— Мы сёлета ўзбагацілі праграму дзякуючы сродкам з Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі. У рамках створанага ў мінулым школьным годзе Аб'яднання «Нашая школа» наладзілі мы ўжо ІІ Інтэграцыйны рэйд па Белавежскай пушчы, арганізавалі «Беларускую гавэнду» і другі раз ладзім «Пікнік з беларусам». Стварылі мы аб'яднанне, каб дзейнічаць у карысць нашай школы, вучняў, бацькоў, настаўнікаў і мясцовага асяроддзя, інтэграваць грамадства, прапагандаваць беларускую мову і культуру. Рэкламуем дзейнасць нашага Комплексу школ у горадзе і павеце, — сказаў старшыня Аб'яднання «Нашая школа» і заадно настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі.

Вядучыя мерапрыемства Ян Карчэўскі і Магдалена Гаўрылюк (вядомая ў Гайнаўцы вучаніца, якая ўдала вядзе канферанс па-беларуску) расказалі публіцы пра поспехі заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь «Дударыкі» з Гімназіі № 14 у Мінску, які дзейнічае з 1970 года і выступаў з канцэртамі не толькі ў еўрапейскіх краінах, але і на Тайвані і ў Паўднёвай Карэі. «Дударыкі» запрэзентавалі народныя беларускія песні і танцы. Маладыя спевакі, танцоры і музыканты, апранутыя ў прыгожыя ўборы, сыходзілі са сцэны пры гарачых апладысментах.

— У калектыве «Дударыкі» займаецца больш за сто асоб. Прыехала 30 чалавек. Ёсць у нас класы скрыпкі, гармоніка, цымбалаў і групы, якія займаюцца спевам і танцамі. Свая музычная капэла састаўляе акампанемент да народных песень і танцаў, — сказаў пасля выступаў мастацкі кіраўнік «Дударыкаў» Дзмітры Ровенскі, заслужаны дзеяч культуры РБ, мінчанін 2010 года ў вобласці культуры.

Па-майстэрску запрэзентаваўся таксама музычны калектыў «Знічка» Гайнаўскага белліцэя, якім амаль дзевятнаццаць гадоў апякуецца настаўніца музыкі Бажэна Ляўчук.

— Сёння выступаюць яшчэ дзве выпускніцы, але яны ўжо адыходзяць ад «Знічкі». У канцы наступнага школьнага года адыдуць вучні, якія састалўлялі падставу нашага калектыву. Трэба будзе фарміраваць новы састаў «Знічкі», — сказала настаўніца Бажэна Ляўчук.

— Мне падабаецца беларуская народная музыка і таму я з вялікім зацікаўленнем гляджу выступленне «Дударыкаў», — заявіла спявачка са «Знічкі» Дамініка Юшкевіч. — Пікнік — цікавае мерапрыемства. Можна тут паглядзець выступленні вучняў, купіць сувеніры, а калі хто хоча, таксама падмацавацца каўбаскай.

Дырэктар белліцэя і белгімназіі Яўген Сачко, які актыўна ўключыўся ў мерапрыемства, апекаваўся гасцямі, размаўляў з гайнаўянамі, якія прыйшлі на беларускі пікнік.

— Шкада, што сёння халадна, бо калі б было лепшае надвор'е, то музыка са школьнай пляцоўкі разыходзілася б па цэнтры горада. Нават выпадковыя людзі маглі б зайсці і паглядзець выступы, — сказала настаўніца біялогіі Аліна Пліс.

Перад сабранымі запрэзентаваліся яшчэ мажарэткі Гайнаўскага дома культуры, якія ўспамагаюць дэфіле духавога аркестра мясцовых пажарнікаў. З песенным рэпертуарам выступілі таксама вучаніцы Дар'я Красько, Юліта Ваўрашук, Моніка Сіняковіч і Караліна Мірэк, што займаюцца ў Студыі песні ГДК, удзельніцы беларускіх конкурсаў і фестываляў. З беларускай праграмай выступілі таксама вучні ПШ № 3 у Гайнаўцы, якіх падрыхтавала настаўніца беларускай мовы Марыя Крук.

— Нашы вучні ахвотна выступаюць перад публікай, любяць развучваць беларускі рэпертуар. Запрэзентуем сцэнку да беларускай песні «Пасеялі дзеўкі лён» у выкананні вучняў ІІІ класа, — паведаміла Марыя Крук.

Выступленні завяршыў канцэрт вакальна-інструментальнага калектыву «Метро» з Гайнаўкі, у якім выступаюць два выпускнікі белліцэя.

— Выступаем мы з беларускім рэпертуарам, які выконваем на забавах і вяселлях. «Пікнік з беларусам» — цікавая ідэя прапагандавання нашага рэпертуару, — сказаў Данель Сакоўскі (у калектыве «Метро» выступаюць яшчэ Яцак Андраюк і Матэвуш Харкевіч).

Малодшым дзеткам цікава было ляпіць цацкі з гліны. Старэйшыя вучні і дарослыя ў якасці сувеніраў куплялі гліняныя *свісцёлкі*. Сувеніры, якія можна было купіць у белліцэі, выканалі члены Аматарскага аб'яднання «Гродзенскі каларыт», прадстаўнікі якога наладзілі майстар-класы па лепцы з гліны, прадавалі гліняныя цацкі і паштоўкі, выкананыя ў тэхніцы аплікацыі саломкай.

— Бачым зацікаўленне нашымі вырабамі і гэта цешыць, — заявілі госці з Гродна — Святлана Круглаполава з Узорнай студыі мастацкай керамікі «Казачная гліна» і Марына Ярэмчык, майстар па аплікацыі саломкай, член Рэспубліканскага саюза майстроў народнай творчасці.

Мясцовыя паліцыянты раздавалі вучням матэрыялы, якія перасцерагалі перад ашуканцамі, знаёмілі з прынцыпамі бяспечнага адпачынку падчас канікулаў.

Думаю, што ўдзельнікі пікніка разыходзіліся з адчуваннем прыемна праведзенага часу, паколькі праграма мерапрыемства была багатай і цікавай. Арганізатары прыдумалі яшчэ конкурсы на тэму гісторыі Гайнаўскага белліцэя і беларускіх спраў.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Зацікаўлены „Нівай"

Я раблю ўсё магчымае для распаўсюджвання нашага беларускага штотыднёвіка. У панядзелак, 12 мая гэтага года ў кіёску „Рух" у Гайнаўцы па вуліцы 3 Мая былі яшчэ чатыры экземпляры „Нівы" № 19 ад 11 мая г.г. і я іх купіў жыхарам Новага Ляўкова Міхалу і Ніне Целушэцкім, Міраславу Галубоўскаму, Зіне Рубчэўскай ды Ірэне Казлоўскай. Яны верныя чытачы беларускага штотыднёвіка. Цікавяцца перш за ўсё весткамі з тых мясцін, у якіх яны пражываюць, або з іх бліжэйшага горада.

А ў 19 нумары „Нівы" былі артыкулы, між іншым, з абрадавага мерапрыемства ў святліцы ў Міхнаўцы — пячэння каравая, пра веснавую скупку лекавых зёлак у Плянце, пра цікавую сустрэчу з Кацярынай Бондай (яна родам з Гайнаўкі) — аўтаркай кніг з дэтэктыўным зместам у гарадской бібліятэцы ў Гайнаўцы ды пра гайнаўскі прыгожы парк і скверыкі. Можна было яшчэ прачытаць у ім, як купляюць родны часопіс у краме ГС у Нараўцы і як солтыс Новага Ляўкова змагаецца за рамонт адрэзка ваяводскай дарогі № 687, якая вядзе цераз Новае Ляўкова.

15 мая г.г. наведаў я ў Гмiннай управе сакратара Нараўчанскай гміны Міхала Бароўскага. Мы часта гутарым, што новага ў „Ніве". Сакратар пахваліў мяне за артыкул „Як „Ятрышнік" пячэ караваі" (публікацыя з 6 здымкамі) ды за „Адказ на крытыку" ў „Ніве" № 19.

У чацвер, 15 мая г.г. у спажывецкай краме ГС у Нараўцы былі тры экземпляры навейшай „Нівы" № 20 ад 18 мая 2014 года і я іх купіў жыхарам новаляўкоўскага салэцтва, якія не часта ездзяць у Нараўку.

Дваццатым нумарам „Нівы" пацікавілася Анна Паўловіч, касірка ў Гмiннай управе ў Нараўцы. Яна яго прачытала і сказала мне, што яе найбольш зацікавіў рэпартаж Міры Лукшы пад загалоўкам „Майстра Кастусь" пра Канстанціна Целушэцкага з Новага Ляўкова — пра ягоны жыццёвы шлях і літаратурны поспех.

У пятніцу, 16 мая г.г. на пошце ў Нараўцы былі ў продажы тры экземпляры „Нівы" № 20 і я іх купіў для зацікаўленых роднай газетай асоб.

У суботу, 17 мая г.г., я быў у Беластоку і хацеў купіць „Ніву" ў кіёсках на вакзале ПКС. Яе раней тут прадавалі, а зараз зноў няма ў продажы. Дзіўная справа, каго тут вінаваціць. Кіяскёры разводзяць рукамі, быццам няма ў гэтым іх віны.

У той дзень „Ніву" № 20 усё ж купіў у кіёску ля скрыжавання вуліцы Сянкевіча і Рынку Касцюшкі. Былі ў ім яшчэ два экземпляры. Уся надзея мая ў гэтым кіёску. Ён не падвядзе. І мой шлях часта вядзе да яго. Тут я пэўны, што ў ім куплю „Ніву".

19 мая шукаў я „Ніву" ў крамах па вуліцы Пуласкага на беластоцкім Новым Месце. Газетна-часопісных кіёскаў тут няма. У спажывецкую краму „Гарошак" — як мяне праінфармавалі — беларускага штотыднёвіка не прывозяць.

„Ніву" № 20 я купіў у кіёску „Рух" па вуліцы Мальмеда. У ім быў яшчэ адзін экземпляр. Купіў яе таксама на пошце па вуліцы кард. Вышынскага. Пошта кожны тыдзень атрымлівае 5 экземпляраў беларускага штотыднёвіка. Вечарам 19 мая прадаў я гэтыя два экземпляры Вялянціне Самойлік і Галіне Бірыцкай, жыхаркам вёскі Плянта (Нараўчанская гміна).

Не магу прамінуць такой прыкрай справы. Я пастаянна раблю падпіску на „Ніву" на пошце ў Нараўцы. Дваццаты нумар нашага роднага тыднёвіка не прынёс мне лістаноша ні ў пятніцу 16 мая (калі я патэлефанаваў яму вечарам на мабільнік і спытаў, што здарылася, лістаноша патлумачыў, што „Нівы" падпісчыкам не прыслалі на пошту), ні ў панядзелак 19 мая. У маю паштовую скрынку трапіла яна ажно ў аўторак, 20 мая. Штодзённую польскую газету атрымліваю рэгулярна.

20 мая я паехаў па справах у Гайнаўку і два апошнія экземпляры „Нівы" № 20 купіў у кіёску „Рух" па вуліцы 3 Мая. У Новым Ляўкове роднага часопіса чакалі мае знаёмыя.

(яц)



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Кніжка, з якой немагчыма разлучыцца

У час III Міжнароднага кірмашу кніжкі, які нядаўна праходзіў у Беластоку, самай вялікай увагай карысталіся кніжкі для дзяцей. Выдаўцы, звычайна, прапанавалі дзіцячую літаратуру на польскай або англійскай мовах. Упершыню прыехалі выдаўцы з Беларусі, якія прывезлі з сабой таксама дзіцячыя кніжкі. Сярод іх найбольшым поспехам карысталася „Чытанка для маленькіх”. У зборніку больш за 90 твораў: вершыкі, лічылкі, калыханкі, скорагаворкі, гульні, казкі — усё, што трэба ведаць дзіцяці. Тут жа шырокавядомая „Сарока-варона”, калыханка „Доўгі дзень, цёплы дзень” ці казка „Курачка-рабка”...

Кніжка ад першага погляду захапляе сваім афармленнем. Бярэш яе ў рукі і ўжо не хочаш адкласці на паліцу. Казачныя малюнкі аўтарства Святланы Каньковай-Дударэнка не адно ілюстрацыя зместу. Яны настолькі жывыя і сімпатычныя, што творы, якія мы здаўна ўжо ведалі або спявалі, здаюцца новымі і яшчэ больш файнейшымі. Пад уплывам жывых малюнкаў дзеці самі прыдумваюць вершаваныя творы, малююць. Мая знаёмая другакласніца спіць з гэтай кніжкай, кожны дзень бярэ яе з сабой у школу ды возіць з сабой на дачу, калі ў выхадныя бацькі едуць адпачываць...

Кніжка выдадзена па замове МГА „Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»” ў 2013 годзе ў падсерыі „Каляровы ровар”.





# Зязюлька

*(ненецкая казка)*

Жыла адна жанчына. І было ў яе чацвёра дзяцей. Не слухаліся маці гарэзы. Адно ўмелі рабіць: ад рання да вечара па снезе гуляюць. Прамочаць адзенне, снегу нанясуць, — усё сушы і прыбірай за імі. Ды яшчэ маці сама рыбу ў рацэ лавіла. Цяжка ёй было жыць, дзеці ёй не дапамагалі. Ад гора яна захварэла. Ляжыць у чуме, дзяцей кліча:

— Дзеткі, прынясіце мне вадзіцы!

Прасіла, прасіла — не дапрасілася. Не пайшлі гультаі за вадой. Нарэшце найстарэйшы сын згаладнеў. Ён зайшоў у чум і яды шукае. Ды бачыць, маці з пасцелі ўстала, маліцу апранае. А вопратка пер'ем абрастае. Замест рук, крыллі выраслі. Абярнулася маці ў птушку і паляцела ў нязведаную тундру.

— Глядзіце, браткі, наша мама ляціць! — закрычаў найстарэйшы сын.

Пабеглі гарэзы за маткаю.

— Мама-мама, — давай яны галасіць, — мы табе вадзіцы прынясем!

— Ку-ку! Ку-ку! Ку-ку! — адказала ім. — Запозна ўжо. Я да вас не вярнуся.

Дзеці беглі за маці многа дзён і начэй. Па камянях, па балоце. Ножкі да крыві паранілі. Дзе ступяць, там след застаецца чырвоны.

Пакінула маці-зязюлька сваіх лянівых дзяцей. З гэтай пары яна і гнязда сабе не звівае. Не корміць сваіх птушанят. А ў тундры, дзе яе дзеці бягуць і ранячь ступні, мох чырвоны вырастае.

**Наш слоўнік:**

***Ненцы*** *— народ, які жыве ва ўсходне-паўночнай Сібіры, раней вёў качэўніцкі лад жыцця, перамяшчаўся на санях, запрэжаных у аленяў, па бязмежнай сібрскай тундры.*

***Чум*** *— намёт са шкур аленяў, хатка сібірскіх качэўнікаў.*

***Маліца*** *— вопратка ўручную пашытая з аленевых шкурак.*



# Увага, конкурс!!! (№ 22-14)

## Загадкі з роднай хаткі

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 7 чэрвеня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

Хапаткія ў мяне крылы,
хвосцік востры, нібы вілы,
з гліны я гняздо ляплю,
Мошак на ляту лаўлю.
(Л.......)

**2.**

Не мае ні адной нагі
І ні адной рукі,
Яшчэ скажу ў дадатак:
Па голым полі гоніць статак.
Што за пастух такі?
(В....)

**Адказ на загадкі № 19-14: крот, ландыш.
Узнагароды, кніжку М. Лукшы „Жывінкі з глыбінкі”, выйгралі Катажына Вішнеўская з Шудзялава, Наталля Маркевіч з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

*Карнэлія БАРЭЧКА, Тарнопаль, школа ў Нараўцы*

## Сабачка

*Сабачка брэша: гаў, гаў,*
*Мае прыгожы хвост,*
*Вочы чорныя як вугаль.*
*Любіць ганяць малых катоў,*
*Бо сам ён малы.*
*Цэлы дзень гуляе,*
*А як вечар настане,*
*Малы сабачка ідзе да мамы.*
*Там укладваецца і засынае.*
*У такі спосаб малому сабачку*
*Дзянёк мінае.*

*Адрыян ДАНІЛЮК, Міхалова*

## Гномік і суніцы

*Гномік ходзіць каля лесу,*
*Збірае суніцы.*
*За суніцы ён дастане*
*Дзве палоскі поля,*
*Дзве каровы, трое цялятак,*
*Малыя курачкі і зярняткі.*
*Гномік любіць работу!*
*І гэтым ганарыцца!*




Выступаюць дзяўчаты з Рыбакоў

# Хатні працяг адной, вясновай сустрэчы!

Па сённяшні дзень у мяне жывы, цёплы ўспамін ад сустрэчы ў бельскай „тройцы". Дзеткі з чацвёртага „а" класа, якіх навучае спадарыня Міраслава Маркевіч, як найбольш хацелі ведаць пра „Зорку". Для іх мы раскрылі адну праўду. Наш чытач не думае пра даступнасць да газет і кніжак на беларускай мове. Гэта ўсё знойдзем у школе або ў хатняй бібліятэцы. Бацькі невыпадкова пасылаюць нас на ўрокі беларускай мовы. Для іх важная наша духоўная спадчына, нашая мова, песні, абрады. І вось дзеці з Бельска здзівілі мяне. Ім здавалася, што беларускую мову ведаюць не толькі ў цэлай Польшчы, але і ў цэлым свеце... Паясненне, што беларускую мову вывучаюць толькі добраахвотнікі, у класе ўспрынялі з цікавасцю і пачуццём гонару. Беларуская мова, хаця мала хто на ёй размаўляе з бацькамі, аказалася больш роднай, свойскай і прыгожай...

Наша сустрэча мела свой „хатні" і творчы працяг. Пра гэта сведчаць цудоўныя вершы нашых сяброў. У іх ёсць усё: вясна, буслы, мора кветак і дзіцячай радасці. А ўжо найбольш здзівіў Дам'ян Бусловіч. Калі мы чытаем яго верш „Мама ў вёсцы", адчуем, што хлапец пра ўсё распытаў сваю матулю. Праўда, вобразы з выбіраннем ільну больш падыходзяць да яго бабулі або прабабкі. У беларускай вёсцы працавітых жанчын цанілі больш за прыгажунь. У расказе Дам'яна дзеці дапамагаюць матулі. І гэта захапляе, адкрывае на сямейную любоў і спачуванне. Каб гэта лепш зразумець, калі ласка, прачытайце казку сібірскага народа ненцаў пра Зязюлю. Там бачым, якую шкоду і плач прыносіць эгаізм...

Сваёй дарогай, вершы бельскіх чацвёртакласнікаў — самы прыгожы „букет красак", які я атрымала ў час школьнай сустрэчы з вучнямі. Пішыце, даражэнькія, развівайце свае здольнасці...

**ЗОРКА**

Перапынак у IV „а" класе ПШ н-р 3



*Дам'ян Бусловіч, клас чацвёрты „а", ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім*

## *Мама ў вёсцы*

*Мама бульбу садзіла і кароў даіла.*
*Градкі яна палола,*
*потым жыта малола.*
*Мы яшчэ падрасталі,*
*але ёй дапамагалі.*
*Мама песні спявала,*
*мама лён выбірала.*
*Звонка песня гучала*
*і ў душу западала.*
*Заглядае ва ўсе гнёзды*
*дарагая мама ў вёсцы.*

*Габрыела Якімюк, клас чацвёрты „а", ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім*

## *Вясна*

*Усё ў прыродзе памянялась,*
*Трава зялёнай хутка стала.*
*На дрэвах пупышкі паявілісь,*
*У лузе каляровыя кветкі з'явілісь.*
*Бусел жабак шукае,*
*У гаі зязюля кукуе.*
*Паветра цёплым стала,*
*Вясна ўвесь свет памяняла.*

# Вершы Віктара Шведа

## Пінокіо

Вось нос, матухны нос!
Для чатырох ён рос,
Папаў ён аднаму,
Не ведаю чаму.

Таму мой сумны лёс,
Што вырас такі нос,
І каб падакучаць
Пінокіо сталі зваць.

## Культае, калі ходзіць

Азвалася мама:
— Цябе не разумею,
Выходзіш, доня, замуж
За культавага Андрэя.

— Мама, прысягаю,
Гэта мне не шкодзіць
Ён толькі культае
Тады, калі ходзіць.

## Не гараць цукеркі

Пытае лекар Шуру:
— Чаму ты, хлопча, курыш?
А Шура проста крыкнуў:
— Не магу адвыкнуць.

— Табе ж я, недаверку,
Параў цукеркі.
А Шура бабоча:
— Гарэць яны не хочуць.

## Цяжкае пытанне

Пытаецца Агата
З брацікам Адамам:
— Чаму ты, наш тата,
Ажаніўся з мамай?

— Пытанняў на свеце
Без адказу многа.
Гэтага і дзеці
Зразумець не могуць.

# Польска-беларуская крыжаванка №22

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 18:

**Аорта, Максім, вядро, ветрык, ложа, фа, сіла, лідар, клуня, мацак, яма, карта. Вожык, ля, сум, ліна, воля, вежа, мята, кадр, лак, крыніца, сок, дар, факт, аматар.**

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Мальвіна Маркевіч**, **Аляксандра Валосік**, **Магда Рошчанка**, **Дамініка Календа** з Бельска-Падляшскага, **Альжбета Харкевіч** з Нараўкі, **Юстына Вайцяховіч**, **Караліна Шчасновіч**, **Міхал Паніквіцкі** з Бабікаў, **Якуб Цішук**, **Ганна Гапанюк** з ПШ № 4 у Беластоку. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Nos | Kokos | | Okazja | | | | | | |
| Kok | | | | Specja-lista | Lira | | Grono / Akcent | Ala | |
| | | | Słoń / Spray | | | | | | |
| Pas | | Szpinak | | | | | | | Płot |
| | | Papryka | | | | | | | |
| Serce | | | | | | | | To | |
| Dwójka | | | | | | Sto | | | |
| | | | | | | Kot | | | |



# Ткалля Зіна

— Я з Ірэнаю Ігнацюковай лоні і пазалоні ткала дываны, — расказвае бадзёрым голасам Зіна Рубчэўская (1949 г. нар.). Мы ў яе мураваным высокім доме зараз за канцом Старога Ляўкова. Былі ў мінулым годзе ў Рубчэўскіх, дагавораныя, але ў той час Зіна паехала ў бальніцу да цяжка хворага мужа, Жорыка. Памёр ён, небарака. Перажылося ёй шмат. І рабіць трэба, займацца жывым жыццём... — Мама яшчэ калісь напрала, дык яшчэ троху было тае воўны, але замала. Яшчэ тады Жорык жыў. Воўну я мела, памыла, пачасала... Было дзесяць кудзеляў. І вось ужо тую кудзелю кончылі. І зноў прыбіраемся трохі паткаць....

— У Ірэны была яшчэ мацерына кудзеля, старыя моткі...

— Ірэна аб'ўялялася, там і сям, што патрабуе воўны. Цяпер ёй такой харошай прывезлі. Строшчанай — у дзве ніткі. Разам з Ірэнай мы ткалі, у дзве, бо пераборaў адзін не зробіш. Адзін перабірае — а там жыўцэ трэба закладаць, дошку ставіць... У чатыры калі тчэцца, можна самому ткаць, па панажах туды-сюды, і ходзіш. Бо я калісь, калі была яшчэ ў хаце... Паходжу са Старога Двара, Косціка Рыгаровіча дачка; маіх бацькоў адтуль выселілі, няма там хаты, нічога... Там застаўся такі садочак, там мы ў долі жылі.... Як пусцілі ваду, то, на жаль, мусілі выбірацца бацькі... Іван Рыгаровіч не выбіраўся доўга. Але памёр. І майму тату было 94 гады пры смерці — таксама харошы век! А каб яшчэ не прычапіўся да яго рак, то яшчэ былі б пажылі б, бо яшчэ байкі адчувалі сябе. Як мама мая Ганна памерла, я сюды забралася. Бацькі пайшлі былі ў бандарскі „блёк". Мама з таго ўсяго, што не на сваім падворку, захварэла моцна, перастала хадзіць, два гады яшчэ ляжала... Спярша бацькі былі ў блёку на бандарскім „аседлі", пасля я іх сюды забрала. І так мы маму ў Ляўкове і пахавалі — наш прыход быў ляўкоўскі. Гайдукова Валодзевае Полымя таксама ў нашым прыходзе, неяк так граніца ішла.... Тату таксама сюды я забрала, і яго таксама тут даглядала, пахавала. Пахавала і мужыка, і сына Толіка, у трыццаць тры гады памёр. Майго Жорыка ў гайнаўскай бальніцы не дапільнавалі, запозна завезлі на неўралогію ў Харошчу, адтуль перавезлі ў Беласток на выратавальны аддзел, а ўвесь час свядомы быў... Палічылі дактары, што не будзе жыць... Я заехала раненька, завёз мае сваяк, а Жорыка з-пад апаратуры адключаюць тае, што жыццё падтрымлівала. Яшчэ два разы дыхнуў... І так і мужыка я страціла... Цяпер так сумна... Дачка на паверсе жыве, з зяцем, але я адна тутака. Хата вялікая. А чалавек толькі адводзіць людзей на той бок...

Як было з Валодзем? Сястра ягоная Гандзя пазванiла мне: „Ты паглядзі што ў Валодзі, бо я званю яму, а ён тэлефона не прымае. Знаеш што, пад'едзь ты, пабач, што там дзеецца". Зіма. Люты. Заехалі мы з Жорыкам да Валодзевых суседзяў, але яны не ведалі, што ў яго. Яны з ім не сябравалі... Сталі мы валіць у дзверы. Знайшла я штосьці, і давай стукаць і ў акно ў спальні. Стукалі, грукалі — нічога. Суседка кажа: ён павінен сабакам даваць есці, а сабакі — галодныя — вішчаць! Вярнуліся мы з Жорыкам дахаты, званю Гандзі: нічога Валодзя не азываецца, святло не гарыць, мусіць, памёр. Сястра адразу рушыла ў дарогу, узяўшы сыноў. Прыехала раніцай. Паклікалі доктара і паліцыянтаў. Зноў мы паехалі да Валодзі. А ён — сапраўды нежывы. Сядзеў у фатэлі. Меў скіраванне ў бальніцу, меў моцнае запаленне лёгкіх. Але не пайшоў. Меў у гаспадарцы авечак, сабак, не меў як пакінуць жывіну? Гандзя прадала гэтых авечак... Гандзя сёлета прыязджала, была ў мяне, паставіла помнік на магілцы бацькоў і Валодзі. Напісана па-славянску: Уладзімір Гайдук, беларускі паэт. На падворку Валодзі на Полымі паабкошвалі, парабілі парадкі... А цяпер яшчэ выйшла кніжка яго новая — усё тое, што Гандзя знайшла ў братавых нататках недрукаванае. Як помнік ставілі, прыязджалі з „Белавежы" прафесар Чыквін з жонкай. І я была на могілках... Адводзім усё больш на нашы ляўкоўскія могілкі... І я, як іду да сваіх, і да Валодзі падыду. Памятаю я яшчэ яго маладым, я падлеткам на забавы хадзіла. І ён хадзіў на забавы. Весяліўся крыху. А была і ў яго дзяўчына! У бальніцы пазнаёміўся быў з ёю. Прыехала. Разам кароў даілі... Але не спадабалася гэта яе бацькам, прыехалі і яе забралі. Не схацелі, каб яна тут была на гэтым закінутым хутары. Хацела яна тут застацца, але бацькі не далі.... Валодзя хораша пісаў вершы. Маю яго кніжку, Гандзя мне дала. Мы так са сваім Жорыкам тыя вершы чыталі... А на паэтычнай сустрэчы ў Старым Ляўкове, калі вы прачыталі яго вершы, людзі аж зарыдалі. Той ліст да мамы — верш Валодзеў — быў такі кранаючы...

Так якась гаспадару... З Ірэнай тку. Таксама і сама плaную. Маю кросны, бэрда, нічальніцы... Нарабілася за сваё жыццё — было чацвёра дзяцей, гаспадарка была. Муж яшчэ да работы хадзіў. Як дзеці меншыя былі, я на работу не хадзіла, але потым пайшла. Сюды, у „Кераміку" — дзе ж інача у Ляўкове! Была работа, і ўсе ў „Кераміцы" рабілі. Сталі мы ўдвох рабіць, і давай мы гэту хату будаваць. Дзеці мелі ў школу ісці, а далёка ў Лешукі было (я выйшла замуж на Цeрамкі, аж пад Слабодку — далёка!). Пазнаёміліся мы былі з Жорыкам на забаве. Калісь жа забаваў многа было! І ў Боўтрыках, і ў Рыбаках, і ў Семяноўцы, у Тарнопалі, у Ляўкове, у Лешуках... дзе хочаш! Мы ў Рыбаках пазнаёміліся былі. Жорык бубніў на бубне. Жорык хораша спяваў. У „аркестры" ігралі на гармоніках Коля Матвяюк з Міхнаўкі, і Міша Бартош, а Жорык — на ўдарных. А я, семнаццацігадовая, зайшла на забаву. Кажа Жорык: „Якоесь харошае дзіця прыйшло!" Мы яшчэ доўга не спатыкаліся, урэшце рашыўся, рассудзіў, прыехаў. Мы чатыры гады з сабою хадзілі. Выйшла замуж я ў 21 год — само пара была выходзіць. А Жорыку было ўжо 28 гадоў... Яшчэ з Церамкоў даязджалі мы на работу ў „Кераміку". Пачалі будавацца ў 1974 годзе. Дом зроблены з ляўкоўскай цэглы. Тады ўзнік з гэтай цэглы цэлы гэты пасёлак. Тады наш Толік хадзіў у другі клас, а Аля ў першы... А мяне калісь тата з Дворыска ўсё вазіў ў Луку ў школу — калі была вялікая мяцеліца, тата каня запрагалі, і ехалі па мяне. Цішэй там дзе лясок той, а там у доле дарога, і як з тае горкі дасць — усё засыпле! Я часамі там хадзіла наўпрасткі, проста па полі, у школу. Як толькі пачынала моцна дзьмухаць, тата запрагалі каня і ехалі па мяне. Часам каню было па трыбух снегу! Былі калісь зімы! У валёначках у школу мы хадзілі... А перабраліся мы сюды ў васьмідзесятым годзе. І час так хуценька прабягае! Так тчэцца жыццёвая нітка... Ляўкова ўвесь час трымаецца на керамічным заводзе. А мы стараемся трымацца і на культуры.

З Ірэнай у гэтым годзе ткалі дываны, пераборы пасылалі на конкурс у Беласток — яна свае, а я свае. Узнагароды атрымалі. Калісьнія ўзоры рабілі. Ірэна, маладзейшая, навучылася больш ад свае маці, бо Жэнька ўвесь час ткала — яна хутка перабірае. Я памалей, бо ў хаце раней ткала толькі ў чатыры. Вучуся. Ёсць такая дошчачка, і ёю перабіраеш; Ірэна ставіць, а я там дошку закладваю, за нічальніцамі. Тады яна тую дошчачку дастае, а я тую стаўляю... І тады зацягваецца за тою дошчачкаю нітку-жывец. І як паўдывана перабярэм, другую частку датыкаем хутка, — бо тую нітачку падымеш, дошчачку засадзіш, і ўжо пайшло... Дыван мае два бакі. Пакажу вам тыя ўзоры.



У пакоі ляжаць дываны, пакрывалы на фатэлі.

— Гэты ўзор — кветкі-браткі. Дзівіцеся — гэтае перабіраецца, закладаеш нітку чаўнаком... Гэтая воўна нефарбаваная. Тое белае, тое цямнейшае — і хораша выглядае. Крыху дзеці зацягалі — памыла, ідэальна зноў выглядае. Будзем далей рабіць. Не толькі для „Падляшскага брэнду года". Я для тае „маркі" і каўбасу, і кашанку рабіла. Нядаўна зноў мне званілі адтуль. Яшчэ трымаю карову і цялушку, малака зашмат для мяне адной, раблю масла, сыры, прадаю суседзям. Усё трэба ўмець зрабіць, каб жыць.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

ВЫДАННЕ „НІВЫ" І РАДЫЁ „РАЦЫЯ"

# На ростанях лугоў

У Беластоку выйшла з друку прыгожая кніжка Багдана Дудко „Даліна з-пад Нарвы і Свіслачы" (2014). У ёй змешчаны вершы і фотаздымкі аўтара ды Дагмары Віданаў, Міхала Косця і Віктара Волкава. Вершы Багдана Дудко апублікаваны на польскай і беларускай мовах. На беларускую мову паэтычныя радкі пераклала Міра Лукша.

Чытаю вершы, чытаю і па-беларуску, і па-польску. Адчуваецца, што паэтычныя радкі вельмі добра дапаўняюць здымкі: яны то тужлівыя, то настальгічныя, то спакойныя, то шчымлівыя. Мне здаецца, што над гэтымі вершамі і здымкамі працавалі актыўна два аўтары: і Багдан, і Міра. Але спадар Дудко няхай не крыўдуе, калі скажу, што беларускі пераклад вершаў вельмі ўзмацніў і ўпрыгожыў само выданне, асабліва, калі вершы чытае беларус не толькі з Беласточчыны, але і з Беларусі. Усё ж, гэта кніжка пра нас, пра беларусаў, пра Бацькаўшчыну, пра зямлю родную, пра яе гісторыю. Вядома ж, аўтар насамрэч добры мастак і ў паэзіі, і ў фотасправе. І ён здолеў у сваёй „Даліне..." сказаць настолькі шмат, чаго не здолеў бы нехта распавесці ў цэлай аповесці.

Багдан Дудко сумуе па радзіме, маленькай радзіме „якой няма", але якая „кожнага чужога частуе лустай хлеба, глытком халоднае вады з калодзежа з жоравам...". Чаму з *калодзежа*, Міра? Ёсць прыгожае слова *студня*.

Даўно я не чытаў вершаў пра беларускіх партызанаў. А ў зборніку Багдана Дудко натрапіў на верш „Магіла партызанаў". Ён пачынаецца так: „Бярозы і сосны — сёстры партызанаў...". Прачытаў першыя радкі і адразу прыгадаўся хрэстаматыйны верш Адама Русака „Лясная песня":

*Ой, бярозы ды сосны —*
*Партызанскія сёстры,*
*Ой, шумлівы ты лес малады.*
*Толькі сэрцам пачую*
*Тваю песню лясную*
*Ды ўспомню былыя гады...*

Гэтая „Лясная песня" Адамам Русаком была напісана ажно ў 1950 годзе. Яе выконвалі і „Песняры", і гурты „N.R.M", і „Чысты голас", і хор Беларускага радыё і многія-многія іншыя калектывы.

„Даліна..." Багдана Дудко распачынаецца вершам „Я, Канстант". У ім аўтар прыгадвае Кастуся Каліноўскага (1838-1864) — аднаго з кіраўнікоў нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863-1864 гадоў, рэвалюцыянера-дэмакрата, публіцыста, літаратара. Згадваючы Каліноўскага, аўтар разважае:

*Ці варта было*
*маючы дваццаць тры гады*
*паміраць за айчыну...*

Кастусь Каліноўскі быў арыштаваны ў Вільні 10 лютага 1864 года. Ваенна-палявы суд прысудзіў яго да пакарання смерцю, і 22 сакавіка 1864 года Кастуся Каліноўскага публічна павесілі ў Вільні на ганддёвай плошчы Лукішкі. Яму было 26 гадоў, але не 23 гады, які піша Багдан Дудко. Перад смерцю Кастусь Каліноўскі здолеў пераслаць з-за турэмных кратаў „Ліст з-пад шыбеніцы" — свой духоўны запавет, у якім выказаў пэўнасць, што толькі тады „народзе, зажывеш шчасліва, калі над табою маскаля ўжо не будзе". Магчыма, гэтыя словы Кастуся Каліноўскага і з'яўляюцца сёння адказам аўтару на яго радкі:




*Ці варта*
*маючы сорак чатыры гады*
*каціцца ўніз ад думкі аб айчыне*
*якой няма*
*ці хоць раз*
*надарыцца такая хвіліна*
*калі перастану, халера, аб гэтым*
*думаць.*

Мне спадабаўся вобраз вёскі ў вершах і ў здымках фотапаэта. Хораша і цёпла апісана вёска, адчуваецца сум з нейкай іскрынкай настальгіі па беларускай вёсцы, у якой сёння „толькі бабулі пры тэлевізарах аглядаючы чыёсьці цудоўнае жыццё засынаюць пры гарачай печы". Ці пра тое, як у зімовы вечар у далёкай вёсцы на Падляшшы „нейкая каралеўна пасярэдзіне вёскі са снегам крочыць". Ці пра вёску, якая „забітая наглуха дошкамі перагнілымі ад тугі...".

Разам з вёскаю паэт сумуе і прыгадвае каханне — вясковае, светлае, чыстае, тое, калі „ты прыйшла да мяне гасцінцам з боку Шымак, апранутая ў імглу, над табой ляцеў статак дзікіх гусей...". Прайшоў час. Паэт побач з каханай жанчынай, з якой яму добра і хораша, але толькі вось няма таго луга...

Паэт хату параўноўвае з жанчынай. Мне спадабалася гэта параўнанне. У вершы прысутнічае і выразная эратычная афарбаванасць пачуцця, ён вяртае не толькі ў маладосць чытачоў і аўтара, але і нагадвае першыя інтымныя парыванні і перажыванні:

*Ведаеш*
*я быў у цябе*
*ты стаяла нерухома*
*шумелі твае валасы*
*мела ты шырока расплюшчаныя*
*зялёныя вочы*
*я пацалаваў цябе*
*абняў*
*увайдзі, ты сказала*
*увайдзі, калі ласка.*

У кнізе твораў Багдана Дудко адчуваецца паглыбленасць думак, уласная перараканаўчасць. У яго вершах і фотаздымках прысутнічаюць радасць захаплення блізкім чалавекам, любоў да чалавека працы і прыроды, добрая лагодная ўсмешка і журботная задуменнасць, філасофскі роздум над жыццём. Пошук вобразаў, параўнанняў — гэта асноўнае, што заўсёды вызначае спробы амаль усіх паэтаў. Цікавымі паэтычнымі адкрыццямі і вобразамі засеяны амаль усе вершы аўтара „Даліны...": „на лугах закрытых буйнаю травой", „прытулі мяне імглістая", „дошкамі перагнілымі ад тугі", „выйшла хмара на шпацыр", „сумныя вочы мае гэтая вуліца", „на ростанях лугоў" і г.д.

Чытаючы і гартаючы кнігу Багдана Дудко „Даліна з-пад Нарвы і Свіслачы", адчуваецца, што родная беластоцкая зямля дае аўтару духоўны мацунак, акрыляе яго фотапаэтычны талент. А яшчэ яго вершы-верлібры, несумненна, даюць новыя істотныя мажлівасці для выяўлення духоўнага свету сучаснага чалавека.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Да гадавіны смерці Міхася ШАХОВІЧА, 5 чэрвеня 2000 г.

# Мой незабыўны сябра Міхась Шаховіч

**Міхась Шаховіч (1953-2000) нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў вёсцы Сакі каля Бельска-Падляшскага. Лёс нас звёў, калі Міхась пачаў працаваць у „Ніве". Галоўны рэдактар „Нівы" даў мне задачу прывучыць малодшага калегу да прафесіі журналіста. І з таго часу пачалося нашае знаёмства. Пачалі мы разам ездзіць у камандзіроўкі. Запомнілася мне нашая першая паездка ў Бельск-Падляшскі. Міхась тады кватараваўся ў сваякоў у Бельску і адтуль даязджаў на працу ў Беласток. Ён тады быў яшчэ студэнтам кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта і перайшоў на завочнае аддзяленне.**

Міхась на галаве насіў доўгія валасы. У сямідзесятыя гады мінулага стагоддзя на такую прычоску не ўсе аднолькава глядзелі. Мой калега расказаў такое здарэнне з ім у Бельску-Падляшскім. Аднойчы ў спякотны дзень ён пасля поўдня прыехаў поездам з Беластока і, ідучы на кватэру, заскочыў у бар на куфаль піва. Сеў пры століку ў куточку і паблізу дзвярэй. Неўзабаве ў бары падвыпіўшыя маладзёны пачалі біцца. Афіцыянтка паздваніла на міліцыю.

Прыбаахоўнікі хутка з'явіліся і, убачыўшы Міхася з такой буйнай чупрынай, яго як аднаго з першых павялі пад канвоем у сваю аўтамашыну. На міліцэйскім пастарунку пасялілі ў камеру для злачынцаў і хуліганаў. Прайшло пару гадзін і па адным пачалі выклікаць з падвала на допыт. Міхась быў цвярозы і не ўдзельнічаў у бойцы. Калі сказаў, дзе працуе і паказаў журналісцкае пасведчанне, следчы папрасіў выбачэння. Усё ж зрабіў намёк, каб малады журналіст памяняў сваю прычоску.

Я даведаўся, што бельскі рэстаран «Падляшанка» заняў прэстыжнае другое месца ў краёвым конкурсе на найлепшую сталовую і ва ўзнагароду атрымаў «Сярэбраную патэльню». Зайшлі мы ў «Падляшанку» да кіраўніка і Міхась упершыню прад'явіў свой журналісцкі білет. Нас прынялі як самых дарагіх гасцей. Найперш паказалі кухню, яе абсталяванне. Пазнаёміліся мы з кухаркамі. Калі мы сказалі, што будзем рабіць здымкі, кіраўнік паклікаў з дому сваю найпрыгажэйшую афіцыянтку і паведаміў, каб яна апранулася ў рэгіянальны народны касцюм. Я заняўся фатаграфаваннем, а Міхась узяўся рабіць нататкі.

Калі мы закончылі свае службовыя справы, нас пачаставалі абедам і гарэлкай. Выйшлі мы з рэстарана сытыя і задаволеныя. А назаўтра далі шэфу фотаздымкі і артыкул. Галоўны рэдактар даў яго на першую старонку «Нівы». І Міхась са мною часта ездзіў у камандзіроўкі. Мы сталі сябрамі не разлі вадой. Я запрашаў яго да сябе ў кватэру.

У адзін святочны дзень (было гэта восенню) Міхась запрасіў мяне ў сваю родную вёску Сакі і пазнаёміў са сваімі бацькамі ды з сястрой і братам. Ён цікава распавёў пра мясцовых жыхароў ды пра праведзеныя ў ёй гады свайго дзяцінства. У нядзелю хадзіў ён у царкву ў Пасынкі. Пасля матуры коратка працаваў лістаношам на пасынкаўскай пошце. Дапамагаў бацькам фінансава, бо ў тым часе вучыліся ў школе ягоны брат і сястра.

Мы часта ездзілі ў камандзіроўкі ў вёскі і ў мястэчкі, між іншым, да найлепшых гаспадароў і ў спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў. Летам наведвалі г.зв. зялёныя дзяцінцы, якія на час сенакосу або жніво арганізавалі гурткі вясковых гаспадынь, між іншым, у Юшкавым Грудзе, Луцэ і ў Саках. Заязджалі ў надлясніцтвы, у якіх падчас летніх канікул працавала моладзь у рамках добраахвотных гуфцаў працы (ОНР) пры пасадцы лесу або дзе палола загоны з саджанцамі. Пісалі пра такія гуфцы працы ў надлясніцтвах Белавежа і Дайліды. У Белавежы начавалі ў бараках для сезонных лясных работнікаў і з самой раніцы адпраўляліся на паляны, дзе ўжо працавалі групкі дзяўчат. Былі яны закватараваны пад палаткамі ў падбелавежскай мясцовасці Грудкі.

Помніцца мне наша некалькігадзінная пабыўка ў дзіцячым летнім лагеры (былі гэта дзеці працаўнікоў беластоцкага прадпрыемства ПКС) на беразе ракі Нарва каля Плёсак. Мы тут рабілі здымкі і нататкі. Стаяў цёплы сонечны дзень. Выхавацельніцы і дзеці купаліся ў чыстай і цёплай вадзе, у якой было многа ракаў. Я іх налавіў рукамі і з Міхасём украдкам пусцілі на разасланыя на траве пледы. Калі выхавацелькі выйшлі з вады і ўбачылі паўзуноў у панцырах і са шчыпцамі, перапужаліся і мігам забралі дзяцей пад палаткі.

Міхась вельмі цікавіўся як сяляне з тае ці іншае вёскі называюць хатнія прадметы штодзённага ўжытку ў кухні або розныя прылады ў стадоле. Рыхтаваў да друку этнаграфічны слоўнік. Распытваў майго бацьку або маці як у Ляўкове называюць, напрыклад, арфу. Мае бацькі арфу называлі веялкай, а манеж называлі рузвэркам. Мой сябра ўсё гэта запісваў. Яго цікавілі таксама вясковыя абрады.

Заязджалі мы ў родную вёску Міхася Сакі. Ён завёў мяне да свайго дзядзькі, цікавага расказчыка і вопытнага пчаляра. Частаваў нас гарбатай і мёдам. Ад яго мы шмат чаго даведаліся пра пчол і іх норавы. Міхась напісаў артыкул пад загалоўкам „Камандзір пчалінай арміі". Быў ён з маімі здымкамі на першай старонцы „Нівы".

Ездзілі мы з Міхасём у Бобінку (яна ў лесе каля вёскі Старына) да майго цесця. Сябра свайм звычаем распытваў яго пра назвы тых ці іншых прадметаў. Цікавіла яго, як у Бобінцы называюць тыя ці іншыя сельскагаспадарчыя прылады.

Але я пра нешта іншае. Вось едзем мы пасля толькі што прайшоўшай навальніцы ў тую Бобінку маім „малюхам" (гэтак называлі машыну «Фіят 126п») і я заўважыў, што мой пасажыр то ногі ўгору падносіць, то галаву схіляе ўніз.

— Што ты робіш, Міхась? — пытаю.

— Ну вось бачыш, якія лужы, ногі замачыць баюся, — адказвае.

— А навошта галаву схіляеш раз-пораз? — зноў пытаю я.

— Мокрыя галіны елак навіслі так, што ажно „ліжуць" шыбы і дах самахода і мне, здаецца, вось-вось лізнуць па маёй галаве.

Міхась, Міхась, усё ж ты дзівак. Мой аўтамабіль быў новы і не прапускаў вады ўсярэдзіну. Ехалі ж у навальніцу... Па ўсім відаць, што дагэтуль мой пасажыр рэдка ездзіў, а, мабыць, найчасцей на роварах. Гэта найбольш праўдападобна.

Міхась чытаў мне свае новыя вершы. Неўзабаве выйшаў з друку яго першы паэтычны зборнік „Праміннанне" (1978). Я слухаў па беластоцкім радыё радыёперадачу пра майго калегу. Помню было гэта летнім вечарам у доме майго цесця.

У сваім зборніку лірычнай прозы „Імгненні" (1991) я напішу:

«(...) З радыёпрыёмніка плыве жывы, цёплы голас пісьменніка, які расказвае пра свае творчыя планы, а потым чытае новы верш. Ён цяпер госцідь у многіх гарадскіх кватэрах, вясковых хатах, па нашай краіне і крыху за межамі яе. Ён гаворыць з тысячамі людзей і ён так блізка ад мяне. Нічога, што асабіста мы з ім добра знаёмыя — я люблю яго вершы, і я вось прысеў ля акна, паслухаў...

З думкай, што і мне некалі гэтаксама запрапануюць прачытаць напісанае... Наіўнасць, не. Мае творы друкуюцца на літстаронцы ў „Ніве"».

Міхась Шаховіч выдаў пяць паэтычных зборнікаў на беларускай мове. Да некаторых даваў здымкі-партрэты, якія я яму зрабіў. Шмат распавядаў мне пра верш „Святая ноч". Пісаў яго, калі начаваў з сябрамі ў дачных доміках на беразе ракі Нараўкі. Я быў тады ў Новым Ляўкове і наведаў яго ў недалёкай Нараўцы. Было гэта пасля летняй вялікай навальніцы і домікі стаялі ў вадзе. Міхась сядзеў на верхніх сходках доміка і чытаў мне свае новыя вершы. Быў зачараваны прыгажосцю тутэйшага наваколля, летнімі ўсходамі і заходамі сонца над ракою. Спаў коратка. Хацеў як найбольш звездаць мясціну, пабыць удзень і ноччу ў Белавежскай пушчы, да якой адтуль рукой падаць. Варта адзначыць, што свайму другому зборніку даў загаловак „Святая ноч".

Гэты кароткі ўспамін пра майго найлепшага сябра датычыць толькі перыяду, калі мы працавалі ў рэдакцыі „Нівы".

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

Фальклор — гэта сцяжынка ад мінулага, праз сучаснасць у будучыню. Звяртанне да фальклору адкрывае магчымасці збярэжэння складаючайся вякамі сістэмы чалавечых каштоўнасцей. Таму так важна зацікавіць маладое пакаленне менавіта сваімі роднымі традыцыямі, каб яны кранулі дзіцячыя душы, бо сапраўдны аўтэнтычны фальклор — гэта і ёсць душа нашага народа.

# Фальклорныя россыпы

3 мая ў Сярэдняй школе горада Высокае ў чарговы раз сабраліся аматары народнай творчасці, а паклікаў іх сюды фальклорны фэст „Спадчына — 2014". Арганізатарам яго выступіў Цэнтр дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі г. Высокае, спонсарам — Раённае грамадскае культурна-асветніцкае аб'яднанне „Спадчына".

Праграма фестывалю складалася з двух аддзяленняў. У першым, „Аўтэнтычны фальклор", выступілі вучні СШ з Воўчына з праграмай „Воўчынцы запрашаюць у госці", вучні Базавай школы з Хадосаў — „Зборная субота" і БШ са Ставоў — з песнямі „Коло млыну" і „Ехал поезд с граммофоном".

Другое аддзяленне, „Народна-сцэнічны фальклор", аб'яднала вучняў пяці школ раёна. Прадстаўнікі СШ з Дзмітровіч падрыхтавалі праграму „Вячоркі", СШ з Пагранічнага — „Кола часу", СШ № 1 — „Кірмаш", а ў дадатак выканалі песню „Сена маладое". Аматары фальклору з СШ з Расны выканалі на цымбалах дзве кампазіцыі — „Люблю наш край" і „Беларускія народныя танцы" — і дзве песні: „Мой родны край і „Песня о Беларуси". А хлопчыкі і дзяўчынкі з БШ у Навасёлках станцавалі „Беларускую польку", выканалі песні „Чаму ж мне не пець", „У зялёную дуброву", „Ружа-кветка" і павесялілі гледачоў гумарэскамі „На базары" і „Госці ў хату". На жаль, у гэты раз прадстаўнікі гмін Мельнік і Чаромха, а таксама творчы калектыў „Гілачка" не змаглі прыняць удзелу ў культурных спаборніцтвах.

Нялёгкі выбар стаяў перад членамі журы, сярод якіх былі намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама Брэсцкага дзяржаўнага абласнога цэнтра маладзёжнай творчасці Тамара Домась і Віялета Брыг, відэааператар Васілій Карпінчык. Сярод членаў судзейскай брыгады былі таксама і спецыяльна запрошаныя польскія госці Марыя Клімовіч, Яўгенія Казімярук з Кляшчэль. Таварыства прыяцеляў Кляшчэлеўскай зямлі, з якім „Спадчына" супрацоўнічае ўжо на працягу некалькіх гадоў, прадстаўлялі таксама Алена і Яўген Верамчукі.

У канцы спаборніцтва ўсе члены журы адзінагалосна вызначылі ўладальніка Гран-пры сёлетняй „Спадчыны". Ім стаў фальклорны калектыў БШ з вёскі Хадосы.

У аддзяленні „Аўтэнтычны фальклор" другое месца засталося за Воўчынскай СШ, трэцяе — за Стаўскай БШ, а ў аддзяленні „Народна-сцэнічны фальклор" першымі сталі вучні Навасёлкаўскай БШ, другое месца падзялілі сярэднія школы № 1 і Дзмітровічаў, на трэцім замацаваліся прадстаўнікі Пагранічнай СШ. А раснянцы атрымалі грамату за ўдзел. Дыпломы і памятныя прызы доўга будуць нагадваць удзельнікам аб свяце фальклору. Аздобілі яго, дарэчы, выступленні ўзорных — фальклорнага аб'яднання „Белавежская цявінка" і клуба аматараў фальклору „Катрынка".

Акрамя таго была арганізавана выстава дзіцячых работ.

Арганізатары фестывалю дзякуюць дырэктару Высокаўскай СШ Валянціне Патрабенка і педагогу Віталію Даўжанюку, а таксама спадзяюцца, што падобныя спаборніцтвы стануць добрай традыцыяй польска-беларускага супрацоўніцтва.

**Людміла ДУДАР**
Старшыня Праўлення Камянецкага РГКАА „Спадчына"

Фота Аляксандра ШЧУРАВА


Гран-пры сёлетняй „Спадчыны" заваяваў фальклорны калектыў Базавай школы з вёскі Хадосы


Журы. Справа налева: другая – Яўгенія Казімярук, трэцяя – Марыя Клімовіч (Кляшчэлі)


У другім радзе: Алена і Яўген Верамчукі – Таварыства прыяцеляў Кляшчэлеўскай зямлі




# http://swedishcentre.org




Ёсць на поўначы Еўропы краіна, якую часцяком ставяць у прыклад іншым. У першую чаргу, калі гэта тычыцца дабрабыту мясцовых жыхароў. Краіна гэта завецца Швецыяй. Калі камусьці давялося там пабываць, то ён сапраўды адзначае добрыя ўмовы жыцця ў даволі суровых кліматычных умовах. Праўда, так званы „шведскі сацыялізм" праяўляецца не толькі ў высокіх заробках, але і не менш высокіх падатках, што, зразумела, наўпрост звязана між сабой. Пэўна, з гэтага Швецыі ўдаецца быць адной з найбольш заможных дзяржаў кантынента.

Калісьці старадаўнія жыхары Швецыі — вікінгі — прыводзілі ў жах насельнікаў бліжэйшых зямель сваімі набегамі і захопамі. Сучасныя шведы народ міралюбны, ды і краіна пазіцыянуе сябе як нейтральная. Праўда, цяга да распаўсюду свайго ўплыву праяўляе Швецыя і цяпер, дапамагаючы пры гэтым зразумець замежнікам сваю культуру і эканоміку. Адным з прыкладаў таму з'яўляюцца так званыя „шведскія цэнтры", і пра той, дзе разумеюць беларускую мову, пойдзе крыху ніжэй.

Сайт Цэнтра шведскіх даследаванняў у Мінску месціцца ў інтэрнэце на адрасе **http://swedishcentre.org**. Акрамя беларускай, ён мае яшчэ тры моўныя версіі — англійскую, рускую і, натуральна, шведскую. Нягледзячы на даволі простую будову сайта і не надта вялікую колькасць рубрык, там утрымліваецца многа карыснай інфармацыі для тых, хто цікавіцца Швецыяй. Прычым вока адразу засяроджваецца на левым баку выяўлення, дзе знаходзяцца рознакаляровыя выйсці на рубрыкі „Курсы шведскай", „Пра Швецыю" і „Вучоба ў Швецыі". Выяву галоўнай старонкі аздабляюць фотаздымкі шведскіх краявідаў, якія мяняюцца, калі абнаўляць яе.

Усе іншыя выйсці на рубрыкі знаходзяцца ўверсе цэлага выяўлення. У першай, што мае назву „Пра нас", распавядаецца ўласна пра Цэнтр і яго гісторыю. „Цэнтр шведскіх даследаванняў (**CSS**) — навучальна-інфармацыйны цэнтр, асноўнай дзейнасцю якога з'яўляецца арганізацыя курсаў па шведскай мове, а таксама правядзенне культурна-інфармацыйных мерапрыемстваў з мэтаю пашырэння ведаў пра Швецыю. Дзейнасць Цэнтра накіравана на вырашэнне дзвюх галоўных задач. Па-першае, распаўсюджванне ў Беларусі ведаў і інфармацыі пра Швецыю, яе гісторыю, культуру, мову, сучаснае палітычнае, эканамічнае і сацыяльнае жыццё. Па-другое, праз сумесныя праекты і кантакты са шведскімі партнёрамі пашырэнне зацікаўленасці з боку Швецыі да супрацоўніцтва з Беларуссю ў сферы адукацыі, навукі, культуры і мастацтва", — інфармуюць наведвальнікаў супрацоўнікі Цэнтра. Віртуальна пазнаёміцца з імі можна на той жа старонцы.

Пра актыўнасць Цэнтра сведчаць фотаздымкі, што месцяцца ў рубрыцы „Галерэя". Праўда, не абышлося без недахопаў. Хоць групы здымкаў маюць агульныя назвы, паасобку яны ніяк не падпісаныя. Таму зацікавіць могуць хіба толькі тага, хто на іх адлюстраваны.

Нягледзячы на тое, што Цэнтр узнік у 2002 годзе, ацэнку яго дзейнасці на сайце знайсці немагчыма. У рубрыцы „Водгукі" ёсць толькі бездаказны заклік: „Для нас вялікую ролю адыгрывае тое, што вы мяркуеце пра нашу працу. Калі ласка, не вагайцеся — пакідайце ваш водгук тут. Для нас вельмі важна ўдасканальваць нашую дзейнасць".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Вялікі вучоны і падарожнік

# 145 гадоў з дня нараджэння Канстанціна ВАЛАСОВІЧА

Вядомы падарожнік і натураліст Канстанцін Валасовіч нарадзіўся 2 чэрвеня 1869 г. у вёсцы Ёдчыцы (Старчыцы) Слуцкага павета ў шматдзетнай сям'і праваслаўнага святара, дзе было шасцёра дзяцей. Маці паходзіла з роду шляхціцаў Лісоўскіх. Нашчадкі памяталі, што іх прозвішча раней пісалася Валасевіч.

Вучыўся Канстанцін у Мінскай духоўнай семінарыі, але курсу навучання не скончыў (паводле іншых звестак скончыў семінарыю і паспеў папрацаваць псаломшчыкам у Бабруйскім і Навагрудскім паветах, дзе далучыўся да гуртка Народнай волі). Далей вучыўся ў Варшаўскім універсітэце, працаваў у Пецярбургу, але ў 1894 г. арыштаваны і зняволены ў Петрапаўлаўскую крэпасць, а потым перавезены ў Варшаўскую цытадэль. Урэшце яго выслалі ў Архангельскую губерню на 5 гадоў.

Высылка паклала пачатак навуковай дзейнасці ў розных сферах. Валасовіч вывучаў смалакурную справу, вёў даследаванні на Муд'южскім маяку, удзельнічаў у геалагічных экспедыцыях, праектаваў каніфольна-тарпантынавы завод пад Архангельскам, вывучаў геалагічную структуру берагоў Паўночнай Дзвіны, даследаваў жывёльны свет Белага мора.

У 1900 г. з Санкт-Пецярбурга на шхуне „Заря" вырушылі ўдзельнікі Расійскай палярнай экспедыцыі пад кіраўніцтвам Эдуарда Толя, якая была арганізавана Імператарскай Акадэміяй навук і мела за мэту даследаванне часткі Паўночнага Ледавітага акіяна на поўнач ад Новасібірскіх выспаў ды пошук легендарнай Зямлі Саннікава. Узначальваць дапаможную санкавую партыю, якая павінна была стварыць харчовыя базы па мяркуемаму шляху экспедыцыі, быў запрошаны Валасовіч. З групай з 10 чалавек на пяці сабачых і дзвюх аленевых запрэжках Валасовіч перабраўся на Новасібірскія выспы. Са сваёй складанай задачай ён справіўся вельмі паспяхова, стаўшы сябрам Толя. У снежні 1901 г. у Валасовіча пачала выяўляцца неўрастэнія і Толь узяў яго з сабою на мацярык.

З Пецярбурга Валасовіч, разам з жонкай, доктаркай Аляксандрай Лаўровай, выехаў у Цюрых на лячэнне лёгачнай хваробы. Там у палітэхнікуме ён праслухаў курс па геалогіі. Пасля вяртання быў арыштаваны за кантакты з рэвалюцыйнай эміграцыяй; дзякуючы хадайніцтву жонкі вызвалены. Пасля гэтага Валасовіч цалкам адыходзіць ад рэвалюцыйнага руху. Яго дачка Ніна значны час правяла ў фальварку Нійкі пад Нясвіжам, дзе жыла сястра Канстанціна, Ніна.

Далей былі шматлікія навуковыя экспедыцыі, адкрыцці і апрацоўка калекцый. У 1917 г. хворы на сухоты Валасовіч з'ехаў у Есентукі, дзе ягоная жонка працавала лекаркай. Вывучаў геалогію Каўказа, арганізоўваў лазарэты для параненых салдат на вайне. Грамадзянская вайна ў Расіі сарвала планы навукоўца. Новая ўлада даручыла яму праводзіць даследаванні на Кубані і Доне. У верасні 1918 г. Валасовіч выехаў у службовую камандзіроўку ў Харкаў. На станцыі Бясплаўка махноўцы пусцілі пад адхон цягнік. Сярод загінуўшых апынуўся і Валасовіч

Сярод ягоных навуковых подзвігаў ёсць і гэткі — ён збярог шкілет Ляхаўскага мамантa, знойдзенага ў Сібіры і аднаго з першых, што сталі вядомыя навуцы. Цяпер шкілет той захоўваецца ў Парыжы ў Французскім нацыянальным музеі прыроды. А яшчэ імем славутага беларускага навукоўца названыя выспы ў архіпелагу Паўночная Зямля, а таксама шэраг выкапнёвых жывёл ды раслін і нават рэчка.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Новая інфраструктура ў Чаромхаўскай гміне

**9 мая гэтага года ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе адбылася падліковая канферэнцыя «Будова водаправоднай і каналізацыйнай інфраструктуры на тэрыторыі Чаромхаўскай гміны». Бэнефіцыянт — Чаромхаўская гміна. Кошт праекта: 3 917 354,07 зл. Еўрасаюзная датацыя: 2 388 630,00 зл. Задача суфінансаваная ў рамках праекта «Асноўныя паслугі для гаспадаркі і вясковага насельніцтва».**

У канферэнцыі ўдзельнічалі віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства Мечыслаў Казімеж Башко, дырэктар Дэпартамента развіцця сельскіх абшараў Маршалкоўскай управы Альжбета Філіповіч, старшыня Рады Гайнаўскага павета Мікалай Міхалюк, старшыня Рады Чаромхаўскай гміны Надзея Суліма, святары Кляшчэлеўскага дэканата з а. мітратам Мікалаем Келбашэўскім на чале — а. Рыгор Астапковіч з Зубач, а. Мікалай Беламызы з Чаромхі і а. Павел Кучынскі з Вэрстока, радныя, прадстаўнікі павятовых і гмінных устаноў, кіраўнікі самаўрадавых адзінак, солтысы і гімназічная моладзь з апекуном Галенай Маркевіч на чале.

— Будова водаправоднай і каналізацыйнай інфраструктуры, — канстатаваў войт Юры Шыкула ва ўступным слове, — з'яўляецца ключавой інвестыцыяй для Чаромхаўскай гміны. Паўплывае яна на паляпшэнне быту і ўмоў жыцця жыхароў, дазволіць падключыць да бліжэйшай ачышчальні сцёкаў платформу новазбудаванага пагранперахода ў Полаўцах. Урачыстае падпісанне дамовы паміж самаўрадам Падляшскага ваяводства і Чаромхаўскай гмінай адбылося ў Маршалкоўскай управе 20 чэрвеня 2013 года і тычылася прызначэння фінансавай дапамогі ў рамках праекта «Асноўныя паслугі для гаспадаркі і вясковага насельніцтва». Пагадненне дазволіла пабудаваць водаправодную і каналізацыйную інфраструктуру на тэрыторыі Чаромхаўскай гміны. У выніку паўстала 7,674 км каналізацыйнай і 8,513 км водаправоднай сеткі. Задача была рэалізавана ў салэцтвах Чаромха-Станцыя, Ставішчы, Апака-Вялікая, Пагулянка і Вулька-Тэрахоўская. Усім, хто ўключыўся ў так важную для нашай гміны і яе жыхароў задачу, шчырае дзякуй! — завяршыў выступленне войт Юры Шыкула.

Затым адбылася мультымедыйная прэзентацыя праекта. Зрабіў гэта намеснік войта Ірыней Леанюк.

— Будова каналізацыйнай сеткі праходзіла вуліцамі Ставіскай, Ліпавай, Фабрычнай, Бочнай, Вісьнёвай, Длугай,Тапалёвай, Новай, Вейскай і Мядовай у Чаромсе, таксама часткова ў вёсцы Ставішчы (ад існуючай помпавай станцыі ў напрамку Чаромхі), а водаправоднай сеткі — на адрэзку Вулька-Тэрахоўская — Пагулянка — Апака-Вялікая, — канстатаваў намеснік войта.

— 20 чэрвеня 2013 г. былі аб'яўленыя таргі. Гміна з трох прапаноў выбрала найкарыснейшага выканаўцу — Раённы саюз водных суполак у Сямятычах. 19 ліпеня 2013 г. была падпісана дамова з выканаўцам. Інвестыцыя закончана датэрмінова.

У час дыскусіі ўзяў голас віцэ-маршалак М. К. Башко:

— Чаромхаўскі самаўрад належна выкарыстоўвае еўрасаюзныя сродкі. Вялікае дзякуй за гэта войту і радным. Няма пэўна ніводнай гміны, якая б наракала на невыкарыстанне еўрасаюзных сродкаў. Многае залежыць ад радных, войта і солтысаў. Станоўчыя дзеянні і рашучасць самаўрада і грамадскай супольнасці далі плён. Варта было пахадайнічаць за супольную справу. Калісьці маладыя вернуцца ў Чаромху з эміграцыі і скажуць: нашы бацькі добра выкарысталі еўрасаюзную дапамогу. Завершаныя інвестыцыі былі для Чаромхі неабходнымі. Але грамадская супольнасць надта больш патрабуе. Таму надалей трэба змагацца за еўрасаюзныя сродкі. Віншую самаўрад з нагоды заканчэння інвестыцыі і жадаю далейшых поспехаў у рэалізацыі новых задач! — закончыў выступленне маршалак Мечыслаў Казімеж Башко.





Стужку ў Ставішчах перарэзваюць (справа налева): войт Юры Шыкула, солтыс Я. Смык, радная В. Кердалевіч, А. Філіповіч, а. Мікалай Келбашэўскі, М. К. Башко, М. Міхалюк, Н. Суліма

Пасля афіцыйнай часткі войт запрасіў прысутных на пачастунак з кавай і гарбатай, затым госці падаліся ў Ставішчы на цырымонію асвячэння новазбудаванай каналізацыйнай сеткі. Для гэтай мэты быў прызначаны аўтобусны транспарт. У мерапрыемстве ўдзельнічалі жыхары вёскі. Перад асвячэннем святары адслужылі малебен. Традыцыйную стужку перарэзалі, між іншым, радная Валянціна Кердалевіч, якая ад імя жыхароў вёскі падзякавала гміннаму і ваяводскаму самаўрадам за інвестыцыю.

Са Ставішчаў кавалькада машын і аўтобус з удзельнікамі канферэнцыі падаліся ў Апаку. Там адбылося асвячэнне водаправода. Ганаровага госця віцэ-маршалка Мечыслава Казімежа Башко прывіталі хлебам і солю солтысы — Аляксандра Храмінская з Пагулянкі і Ян Пушкарэвіч з Апакі-Вялікай. Пасля цырымоніі асвячэння водаправода арганізатары запрасілі гасцей на пачастунак з кавай і гарбатай. На гэтым чаромхаўская канферэнцыя закончылася.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# Адгаданка

1. тара з палатна для сыпучых цел, 2. шэф консульства, 3. лячэбны парашок з кары хіннага дрэва, 4. процілеглая падлозе, 5. між варшавянкай і масквічанкай, 6. дзяржаўная мова ў Ісламабадзе, 7. невялікая эстрадная п'еса жартаўлівага характару, 8. між Бярэзінай і Дняпром, 9. металічны груз для практыкаванняў у цяжкай атлетыцы, 10. дзікая жывёла, 11. мангольскае жыллё, 12. складны паўкруг для абмахвання ў духату, 13. раённы цэнтр на поўначы Віцебскай вобласці, 14. дрэва на лівансцім сцягу, 15. лясны вулей.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | | | | 2 | | 3 | |
| | | | | | | 4 | | | | | |
| | 5 | | 6 | | | | | | | | 7 |
| | | 8 | | | 9 | | | | 10 | | |
| | | | | | | | | 11 | | | |
| 12 | 13 | | | | 14 | | | | | | 15 |

Рашэнне: **З дугі аглоблі не зробіш**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

**Адказ на адгаданку з 18 нумара**

Дзвіна, Гобі, шаг, лучына, езуіт, Бішкек, Берлін, Андора.

# 01.06 — 07.06

**(22.03. — 20.04.)** Твая ўражлівасць і інтуіцыя давядуць да таго, што твае рашэнні будуць трапныя. Належна ацэньвай партнёра. Будзеш весці вельмі ажыўленае кампанейскае жыццё (але пільнуйся, каму давяраеш). Будзеш маэстра ашчаднасці! Не перабольшвай праблем, а ўсё добра складзецца.

**(21.04. — 21.05.)** Тваю галаву запоўняць задумы і новыя ідэі. Карыстайся імі, але будзь пасьлядоўным. Як у іншых сферах будзеш шукаць інспірацыі і жарснасці, дык у любові наадварот — тут чакаць будзеш спакою і бяспекі. На здароўе не будзеш наракаць, але тармазі апетыт. У тваіх працы і фінансах — пачынаецца светлая паласа.

**(22.05. — 22.06.)** Памятай, што часта варта ўступіць. Найпрыемныя рандэву і кампанейскія сустрэчы 2- 6.06. 4-8.06. будзеш мець сто задум на хвіліну, папраўдзе не ўсе зрэалізуеш, але прынамсі шмат чаму навучышся. Не чакае цябе цяпер эмацыянальнае цунамі. Адзінокія Блізняты будуць карыстацца свабодай і спакоем.

**(23.06. — 23.07.)** Добры час закончыць кепскую сувязь і пошукі новага кахання. У пачуццях пазмагаешся за шчасце. Дома не вырашай ніякіх фінансавых спраў, асабліва датычных пазык і крэдытаў. Знакаміты момант на дыету. А ў фінансах у чэрвені табе вельмі пашчасціцца!

**(24.07. — 23.08.)** 4-8.06. цудоўна зладзіцца табе і ў каханні, і ў бізнесе. Шчасце будзеш мець у шмат якіх справах, а падпісаныя дамовы будуць трапныя. На гарызонце новае сяброўства. Але некаторыя з блізкіх і сяброў могуць цябе падвесці. Змагайся з благімі звычкамі, таксама і ў ядзе. Можаш шмат дасягнуць у чэрвені на прафесійным полі, але добра жыві з людзьмі, не ўключайся ў ніякія інтрыгі.

**(24.08. — 23.09.)** Шанцы на поўныя вышынь адносіны і канкрэтныя змены ў жыцці. Добра ўсё перадумай. Час важных рашэнняў у пачуццях. Для здароўя старайся як найчасцей бываць на ўлонні натуры. На працы будзе табе ўдавацца штораз лепш (аж да 21.06.), даказвай кіраўніцтву свае перавагі і ўмеласці.

**(24.09. — 23.10.)** З усімі цяжкасцямі смела справішся. Варта, бо ад гэтага залежыць твой поспех! У пачуццях шукай братняй душы. Дома і ў кампаніі будзеш сапраўдным важаком. Для здароўя чэрпай з натуры. Увесь месяц будзеш напоўнены добрай энергіяй, але могуць турбаваць цябе болі галавы, зубоў, гарачка, алергія. Еж прадукты багатыя ў магній.

**(24.10. — 22.11.)** Вучыся адабрэння — яно неабходнае, каб стварыць шчаслівую пару. Добры час на рандэву; 2-6.06. можаш знайсці асобу, якая ачаруе цябе таксама духова. Добрыя адносіны з кіраўніцтвам. Будзеш абавязковы і пунктуальны. Агульна ў чэрвені будзеш крыху аддалены ад кампаніі, можа цябе турбаваць хандра, адчуеш слабасць і ляноту, прытым з-за гэтага пачуццё віны, што можа давесці да крызісу і аслаблення арганізма.

**(23.11. — 22.12.)** Паспяхова зрэалізуеш свае намеры, пераканаеш да сваіх задум іншых, умела возьмешся за выкананне смелых праектаў. Добры час для пачуццяў у сужонствах; адкрыйся на задумы партнёра, дык чакае цябе сапраўдная ідылія. Сонца ў пачуццях (да 21.06.); не дасі сябе пасватаць, сам паспяхова трапіш у дзесятку! Але будзеш прыгнечаны рэчаіснасцю, ды будзе час на роздумы, пераможаш свае слабасці. На працы старайся рабіць усё ў калектыве.

**(23.12. — 20.01.)** Маеш шанц пазнаёміцца з кімсьці інспіруючым; трымай вочы вакол галавы! Папулярнасць у наваколлі. Не давайся лішне выкарыстоўвацца ў сям'і. Схочацца паварушыцца, пазаймацца спортам. Можаш змяніць свой выгляд, аднавіць гардэроб. На працы выходзь перад шэраг, уводзь навінкі.

**(21.01. — 19.02.)** 4-8.06. станеш больш самастойны; не пабаішся эксперыментаваць. Адчакаеш горшыя моманты; вучыся на памылках. У першай палове чэрвеня можаш хораша чысціць арганізм і пахудзець. Дома сустрэчы, і ты ахвотна пабываеш у гасцях (да 23.06.). Вялікае ўключэнне ў працу дасць плён новых прапаноў.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** 4-8.06. маеш шанц памножыць тое, што маеш, або інвеставаць грошы так, каб самі на сябе зараблялі. Навучышся выказваць свае эмоцыі, што паспрыяе добраму паразуменню з партнёрам. У пачуццях слухай голасу розуму; маеш шанц на проста невераготную прыгоду! Мілыя, супакойваючыя і гарманічныя сустрэчы з далейшай і бліжэйшай раднёй. У здароўі жыві ва ўласным рытме. Стрэс (5-9.06.) разгрузі практыкуючы ёгу ці ездзячы на веласіпедзе.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# У бляску Эль Грэка ч.ІІ

Калі Сяргей Каваленка стаў раўняць Сядлеччыну з Беларуссю, ён толькі дапоўніў думкі, якія накапіліся ў дарозе. За Ласіцамі, калі мы павярнулі на захад, і апынуліся ў адміністрацыйных межах Мазовіі, нішто не памянялася. Наадварот, усходняя частка Сядлеччыны здалася больш беднай і шэрай за Падляшша. Быццам не ў Польшчу з'ехалі, а недзе за Буг, на Брэстчыну. Пра ўсходнеславянскі характар тэрыторыі прамаўлялі таксама сустрэтыя тут указальнікі са свойскімі назвамі: Крынкі, Сток Рускі... Аўтамабілі на варшаўскіх нумарах выглядалі не менш экзатычна як у прыпушчанскай Сарочай Ножцы...

У краявідзе адчувалася нейкая расхрыстанасць і разладдзе. Настрой падбівала надвор'е. На травеньскім небе заўзята каталаваліся хмары, з якіх час ад часу шпарыў халодны дождж. Часам з-за набрынелых аблокаў прабівалася сонца, каб на міг расьсвятліць паветра асляпляючым бляскам.

Усходняя Сядлеччына здавалася дзіўна абязлюдзелай, без амбіцый, еўрадаплат і грантаў. Пры ёй нават Падляшша, хоць разрытае з-за дарожных рамонтаў, выглядала вабна і дзелавіта.

* * *

Генадзь Драздоў спачатку спыніўся ля сваіх ікон, напісаных па прыкладзе полацкіх фрэсак са Спаса-Праабражэнскага манастыра. Іх візантыйска-грэчаская аўра прамаўляла як паклон у бок экуменічна-еўрапейскай творчай дарогі Эль Грэка. Грэчаска-іспанскі мастак, ураджэнец Крыта, пачынаў як іканапісец. Яго „Экстаз святога Францішка", хоць сам па сабе славіць рымскага святога, эмануе радасным настроем праваслаўнай Пасхі.

Генадзь Драздоў таксама насыціў свае карціны метафарычнасцю і містычнай тайнай. Прашу, каб патлумачыў сваю карціну. На ёй сціплы, прыгорблены святы ў сярэдневяковых рызах. Ён спыніўся ля хрысціянскай святыні. Царква мае дзівосныя „ногі". Яна абапіраецца на залатыя палазы, знізу напамінае калыску. За момант святы дакранецца да будоўлі, каб яе пагушкаць, закалыхаць.

— Гэта карціна называецца „Святы ахоўнік царкваў", — паясняе мастак. І дадае: — Я маю на ўвазе ўсе хрысціянскія канфесіі...

Іншы абраз Генадзя Драздова адкрывае гледача на нябесную музыку. Пад біблейскім Дрэвам жыцця, за белым фартэпіяна засела Божая Маці. Яна быццам кадрыраваная са старажытнай візантыйскай іконы. У мелодыю нябеснай піяніcткі заслухаліся пастушкі і аўчарня. Карціна сама па сабе „іграе" настроем божага нараджэння, застаўляе прыслухацца неразгаданым і ледзь-ледзь чутным гукам. Гэты гук, хоча верыць глядач, неўзабаве прамовіць словамі дабравешчання...

— Раскажыце мне пра сваю царкву, — прашу спадара Генадзя.

Да гэтага схіляе экуменічны настрой яго карцін і іх беларуска-народная лячэбная аўра. У адказ пачую набрынялыя крыўдай і жалем словы. Генадзь Драздоў — прыхільнік аўтакефаліі. Вернікі Беларускай праваслаўнай царквы — нелегалы ў сваёй дзяржаве. Багаслужбы адпраўляюць як першыя хрысціяне па дамах, у гарадскіх кватэрах хмарачосаў...

— А калі лета, цёпла, — дадае мастак, — мы сустракаемся на прыродзе, адпраўляем багаслужбы ў дубровах.

Апошняе прызнанне збівае з панталыку, думкі самі ляцяць да карціны „Хрышчэнне Літвы" — манументальнага трыпціха Аляксея Марачкіна, прысутнага на эльгрэкаўскім вернісажы.

* * *

Катажына Фікула ад дзесяці гадоў апякуецца карцінай „Экстаз святога Францішка". Штодзённы кантакт з легендарным творам дазволіў ёй пранікнуць многія тайны і сакрэты. Яна сама крыху напамінае семнаццацівечную іспанскую арыстакратку. Шмат інфармацый перадаюць яе далікатныя, красамоўныя жэсты. Пытаем пра паранармальныя з'явы і цудоўныя здарэнні, здзейсненыя перад абразам. Той хто чакае фальклорных расказаў, расчаруецца.

— Цуд тут такі, — сцішае голас спадарыня Катажына, — гэтая карціна натхняе на жывы мастацкі працэс. Ён можа адбывацца без слоў, без спектакулярных здарэнняў. Так было, калі мастакі прыйшлі пазнаёміцца з творам. Яны сядзелі моўчкі, як зачараваныя. Гадзіну або даўжэй...

Жывы мастацкі працэс, як на далоні, можна прыкмеціць у працах паказаных на вернісажы.

— У частцы карцін надта відавочная эльгрэкаўская нота, — адзначае мастацвавед Фікула. — Гэтая нота сама па сабе сумная, яна наклікае настрой містычнага вяшчання, прапаведуе змены...

Спадарыня Катажына, як сапраўдны вартавы „Экстаза святога Францішка", старанна і прыгожа падбірае словы. Пра творцаў кажа так:

— Кожны мастак паўтарае самога сябе. Ён адкрывае для нас тое, што сам прыкмеціць, убачыць. Эль Грэка, эмігрант з далёкага і праваслаўнага краю, як ніхто іншы здолеў улавіць і прыкмеціць дух каталіцкай Іспаніі ў часы контррэфармацыі. Яго геній фіксуе містычны настрой хвіліны, той міг, калі адкрываецца нябачанае і чуецца невыказанае. Боль, пакуты і смерць — неабходнае дапаўненне працэсу тварэння і ўваскрасення...

* * *

— Хопіць зірнуць на карціны Марачкіна, Пушкіна — усе яны відавочныя і адметныя. Яны вырастаюць з беларускай нацыянальнай школы. Ідэя незалежнасці краіны для нас святая, — кажа Генадзь Драздоў.

Сам ён прыйшоў на вернісаж з бел-чырвона-белым сцяжком. Беларускі свядомы нацыянальны мастак, як у часы БССР, нясе на сваіх плячах ідэю абароны айчыны. У новай рэчаіснасці яго місія набыла духоўна-рэлігійны ўхіл. Як аказалася — невыпадкова.


Генадзь Драздоў




Алесь Марачкім падарыў сваю краціну прафесару кс. Роберту Міроньчуку, арганізатару пленера.



На вернісажы разам з Алесем Пушкінам, беларускія студэнты з Беластока, Брэста, Віцебска

— Я не магу зразумець беларускага парадоксу, — кажу Алесю Пушкіну. — Вас увесь час судзяць ды праследуюць. Здавалася б, вас ужо няма, вас утапілі. А тут сенсацыя! Пушкін зноў нешта прыдумаў, скалыхнуў эмоцыямі беларусаў! Ён працуе ў самых прэстыжных касцёлах і цэрквах. І гэта ўсё дзеецца ў Беларусі, дзе ўсё нацыяналістам забаронена, дзе ўсё пад кантролем...

— Для такіх нацыяналістаў як я ёсць адна ніша ў Беларусі, — кажа Пушкін. — Гэта цэрквы і касцёлы. Там няма каму працаваць. Зараз працую я па расчыстцы ў старажытнай царкве ў Сынковічах. Гэта жамчужына, нацыянальны скарб. Там адбывалася гісторыя, быў Вітаўт... Чыноўнікі з дэпартамента аховы культурных каштоўнасцей маюць вялікі клопат. У краіне пяць тысяч цэркваў і касцёлаў, якія пад аховай дзяржавы. Яны ведаюць, што пры аднаўленні такіх аб'ектаў павінны працаваць людзі з мастацкай адукацыяй, каб нехта не сапсаваў помнікаў даўніны. Мне сказалі: „Алесь, ты патрыёт, вазьмі пад сваю ахову касцёл Дзевы Марыі ў Вішневе". Я паслухаў, падаў прашэнне і чатыры месяцы чакаў адказу. Згадзіліся. І кіраўніком мяне зрабілі. Я вельмі рады... Там жа святое для нас месца. У гэтым жа Вішневе служыў ксёндз-патрыёт Уладзіслаў Чарняўскі.

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960